# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

МЕНСК, ПЛЯЦ ВОЛІ, — ДОМ ПРАЦЫ —

ТЭЛЕФОНЫ:
Старшыні ЦП № 4-08
Арг.-ін. сэктар № 4-08

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

№ 16 — 1-га жніўня 1932 года — № 16

ЗЬМЕСТ:

1. Пастанова СНК СССР і Цэнтральнага Камітэту Ўсе КП(б) „Аб пляне збожжазагатовак ураджаю 1932 г. і разгортваньні калгаснага гандлю."
2. Пастанова СНК Саюзу СССР і ЦК Ўсе КП (б) „Аб плане жывёлазагатовак і аб мясным гандлі калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян".
3. Пастанова Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „Аб ходзе выкананьня здачы таварнай прадукцыі трэстаб'яднаньнямі", ад 10-V-32 г.
4. Пастанова Прэзыдыума Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „Аб папулярзацыі рашэньняў IX-га Усесаюзнага зьезду Прафсаюзаў, ад 10-VI 32 г.
5. Мэтадычная прапрацоўка рашэньняў IX-га зьезду Прафсаюзаў.
6. Пастанова Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „Аб практычных мерапрыемствах па выкананьні жывёлагадоўчымі саўгасамі пастановы ЦВК і СНК СССР „Аб разьвіцьці і захаваньні конскага пагалоўя", ад 27-VI-32 г.
7. Пастанова Прэзыдыуму Расп. К-ту Саюзу РЖС па дакладу трэстаб'яднаньняў „Аб ходзе падрыхтоўкі да сенаубарачнай кампаніі 1932 г." ад 10-VI-32 г.
8. Пастанова Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „Аб мерапрыемствах па аб'вешчаным огразоавэтпаходзе", ад 10-VI-32 г.
9. Дырэктыўны ліст Рэсп. К-ту Саюзу РЖС і трэстаб'яднаньняў усім дырэктарам, рабачкомам і сэкцыям спэцыялістаў жывёлагадоўчых саўгасаў „Аб сіласнай кампаніі 1932 г."
10. Дырэктыўны ліст ЦК Саюзу РЖС ўсім краёвым, абласным і рэспубліканскім К-там Саюзу РЖС „Аб зборы насеньня дзікарастучых".
11. Дырэктыўны ліст Рэсп. К-ту Саюзу РЖС усім старшыням рабачкомаў жывёлагадоўчых саўгасаў аб павялічэньні тыражу газэты „Сельхозрабочий" (Маскоўскі).
12. Пастанова Прэзыдыуму Рэсп. К-ту Саюзу РЖС па пытаньні „Аб арганізацыі рабочых курсаў для брыгадзіраў (старшых сьвінароў) і сьвінароў праз газэту „Сельгасрабочы Бел." ад 21 V-32 г.
13. Дырэктыўны ліст Рэсп. К-ту Саюзу І ЦБ ІТС усім рабачкомам і ІТР сьвінаводчых саўгасаў аб арганізацыі завочнага навучаньня праз газэту для брыгадзіраў і сьвінароў.
14. Праграма 4-х месячных завочных курсаў праз газэту „Сельгасрабочы Бел." і „Калгасьнік Беларусі" для брыгадзіраў (старшых сьвінароў) і сьвінароў, ад СКІФ.
15. Палажэньне аб вытворчай нарадзе сьвінаводчых саўгасаў у Саюзе РЖС.
16. Палажэньне аб прафгрупе і прафгрупоргу.

# Аб пляне збожжазагатовак з ураджаю 1932 году і разгортваньні калгаснага гандлю збожжам.

## ПАСТАНОВА.

### СНК СССР і Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б).

1. На аснове перамогі калгаснай і саўгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў у вёсцы—СССР за 2 гады дасягнуў такога разгортаваньня збожжавай гаспадаркі, пашырэньня пасеўных плошчаў і росту валавой прадукцыі збожжа, што замест 660 млн. пуд. збожжа (разам з гарнцам), загатоўленых ад ураджаю 1928 году, на аснове аднаасобнай гаспадаркі,—у 1930 годзе дзяржаўныя загатоўкі дасягнулі 1350 млн. пуд. збожжа (разам з гарнцам), а ў 1931 г. ня гледзячы на засуху—1. 400 млн. пуд. (разам з гарнцам).

Гэтыя посьпехі тлумачацца перш за усё тым, што калгасы як буйная аб'яднаная гаспадарка, атрымалі магчымасьць праз машына-трактарныя станцыі прыстасавацьі най лепш скарыстаць трактары і машыны, пашырыць пасеўныя плошчы і палепшыць агратэхнічную пастаноўку справы, а саўгасы пертварыліся ў буйнейшыя ф-кі збожжа, якія забясьпечваюць дзяржаве з году ў год узрастаючы збожжавы фонд.

Дзякуючы ажыцьцяўленьню палітыкі Ленінскай партыі, краіна вышла з крызісу збожжавай гаспадаркі і перамагае труднасьці, выкліканыя засухай мінулага году ва ўсходніх раёнах СССР, са значна большым посьпехам, чым гэта мела месца ў папярэднія засушлівыя гады, калі дробная сялянская гаспадарка яшчэ пераважала ў нашай краіне.

2. Разм з тым у рэзультаце посьпехаў у справе ажыцьцяўленьня 5-ці годкі ў галіне прамысловасьці усё больш растуць магчымасьці Савецкага саюзу ў галіне вытворчасьці прамысловых тавараў як для задаваленьня вытворчых патрэб калгасаў, так і асабістых патрэбнасьцяй працоўных вёскі.

У сувязі з гэтым бязупынным ростам колькасьці прамысловых тавараў і ростам вытворчасьці збожжа ў вёсцы павялічваюцца магчымасьці разгортваньня калгаснага гандлю.

Калгасны гандаль становіцца ўсё больш важнай дадатковай крыніцай снабжэньня гораду прадуктамі с/г вытворчасьці.

У сувязі з гэтай акалічнасьцю савецкая ўлада атрымала магчымасьць побач з мэтадам дзяржаўных збожжазагатовак практыкаваць як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва другі мэтад—мэтад гандлю збожжам самімі калгасамі і калгасьнікамі. Задача заключаецца ў тым, каб у інтэрэсах далейшага пашырэньня таваразвароту паміж горадам і вёскай і яшчэ большага палепшаньня снабжэньня гарадзкога насельніцтва спалучыць гэтыя два мэтады і разгарнуць калгасны гандль збожжам за кошт некаторага скарачэньня дзяржаўных збожжазагатовак па сялянскім сэктары, павялічыўшы адначасова загатоўкі па саўгасным сэктары.

На падставе ўсяго гэтага Савет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

а) Зьменшыць дзяржаўны плян збожжазагатовак па СССР з ураджаю 1932 г. па калгасах і аднаасобных гаспадарках у параўнаньні з плянам 1931 г. на 264 млн. пуд., устанавіўшы для 1932 г. плян ў 1103 млн. пуд. пры сярэднім ураджаі (бяз гарнца) замест леташняга пляну ў 1367 млн. пуд.

У адпаведнасьці з гэтым вызначыць параённа наступны плян збожжазагатовак (бяз гарнца).

Па Украіне—356 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 434 млн. пуд.

Па Паўночным Каўказе—136 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 154 млн. пуд.

Па Крыме—10 млн. пуд. замест пляну мінулага году —11 млн. пуд.

Па ЦЧВ—116 млн. пуд. замест пляну мінулага году—128 млн. пуд.

Па Татарыі.—24 млн. пуд. замест пляну мінулага году —31 млн. пуд.

Па Казакстану—38 млн. пуд. замест пляну мінулага году—57 млн. пуд.

Па Усходняй Сібіры—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—32 млн. пуд.

Па Сярэдняй Азіі—22 млн. пуд. замест пляну мінулага году—25 млн, пуд.

Па Маскоўскай вобласьці—27 млн. пуд. замест пляну мінулага году—31 млн. пуд.

Па Ніжагародзкім краі—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—33 млн. пуд.

Па Заходняй вобласьці—6 млн. пуд. замест пляну мінулага году—9 млн. пуд.

Па Ленінградзкай вобласьці—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.

Па Іванаўскай вобласьці—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году 5 млн. пуд.

Па Паўночным краі—2 млн. пуд. замест пляну мінулага году—3 млн. пуд.

Па Закаўказьзі—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.

Па БССР—4 млн. пуд. замест мінулага году 6 млн. пуд.

Па Далёка-Ўсходнім краі—7 міл. пуд. замест мінулага году—8 млн. пуд.

Па сярэдняй Волзе—72 млн. пуд. замест мінулага году —106 млн. пуд.

Па ніжняй Волзе—77 млн. пуд. замест пляну мінулага году—100 млн. пуд.

Па Башкірыі 26—млн. пуд. замест пляну мінулага году—29 млн. пуд.

Па Уралу—48 млн. пуд. замест пляну мінулага году.—71 млн. пуд.

Па Заходняй Сібіры—62 млн. пуд. замест пляну мінулага году.—74 млн. пуд.

б) У адпаведнасьці з ростам саўгаснай гаспадаркі павялічыць у 1932 г. плян збожжазагатовак па саўгасах усіх сыстэм да 151 млн. пуд. супроць зданых ў мінулым годзе 108 млн. пуд. з наступнай разьбіўкай па сыстэмах.

Па Збожжатрэсту—110 млн. пуд, па Саюзцукру—20 млн. пуд. па насенаводчых трэстах 10 млн. пуд, па Прамсаўгастрэсту—5 млн. пуд, па жывёлагадоўчых саўгасах (саюзных і рэспубліканскіх)—3 млн. пуд., па іншых рэспубліканскіх саўгасах 3 млн. пуд.

Збожжазагатоўчы плян па саўгасах разьбіць па раёнах наступным чынам:

Украіна—29 млн. пуд, Паўночны Каўказ—37 млн. пуд, Крым—4 млн. пуд, ЗСФСР—0,4 млн. пуд, Сярэдняя Азія—2,3 млн. пуд, Ніжняя Волга—12 млн. пуд., ЦЧВ—10 млн. пуд, Сярэдняя Волга—16 млн. пуд., Татарыя—0,3 млн. пуд, Казакстан—4 млн. пуд. Урал 8,5 млн. пуд. Башкірыя—5 млн. пуд.

Заходняя Сібір—13,5 млн. пуд., Усходняя Сібір—3,5 млн. пуд., Ленінградская вобласьць—0,05 млн. пуд., Заходняя вобласьць —0,35 млн. пуд, Маскоўская вобласьць—0,8 млн. пуд., Іванаўская вобласьць—0,2 млн. пуд., Ніжагародзкі край—0,1 млн. пуд., ДУК—4 млн. пуд.

в) Выкананьне пляну збожжазагатовак з ураджаю 1932 г. закончыць не пазьней 1 студзеня 1933 г.

г) стварэньне насенных фондаў ў калгасах закончыць не пазьней 15 студзеня 1933 г.

д) Прызнаць мэтазгодным па сканчэньні выкананьня гэтага збожжазагатоўчага пляну і стварэньня насенных фондаў, г. зн. з 15 студзеня 1933 г. даць калгасам і калгасьнікам поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу лішкаў свайго збожжа на свой погляд як на рынках, так і ў сваіх калгасных крамах, абавязаўшы мясцовыя органы ўлады аказваць ў гэтым калгасам і калгасьнікам поўную садзейнасьць і прыняць меры да выкараненьня прыватнікаў і перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца на калгасным гандлі.

Старшыня СНК СССР **В. Молатаў (Скрабін)**
Сакратар ЦК УсеКП(б) **І. Сталін.**

Масква, Крэмль,
6 Мая 1932 г.

---

# АБ ПЛЯНЕ ЖЫВЁЛАЗАГАТОВАК

## і аб мясным гандлі калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян.

*Пастанова СНК Саюзу ССР і ЦК Усе КП(б)*

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэтральны Камітэт Усе КП(б) ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:

1. Зьменшыць у два разы дзяржаўны плян жывёлазагатовак на тры кварталы 1932 г., што засталіся,—па калгасах, калгасьніках і аднаасобных гаспадарках і ўстанавіць яго ў разьмеры 716 тыс. тон у жывой вазе, замест дзейнага пляну ў 1.414 тыс, тон, адначасова ПАВЯЛІЧЫЎШЫ

плян здачы жывёлы саўгасамі (апрача камэрцыйнай рэалізацыі) да 138 тыс. тон супроць фактычна зданых у 1931 г. 90 тыс. тон жывой вагі.

2. У адпаведнасьці з гэтым:

а) размяркаваць плян загатовак па калгасах, калгасьніках і аднаасобных гаспадарках на тры кварталы 1932 г. па-раённа ў наступнай колькасьці:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Паўночны край . . | 6.000 | тон | супроць | дзейнага | пляну | 7.400 | т. |
| 2. Карэльская АССР . . | 500 | „ | „ | „ | „ | 670 | „ |
| 3. Ленінградзкая вобласьць | 15.000 | „ | „ | „ | „ | 22.060 | „ |
| 4. Заходняя . | 38.000 | „ | „ | „ | „ | 57.100 | „ |
| 5. Маскоўская | 20.000 | „ | „ | „ | „ | 25.500 | „ |
| 6. Іванава-Прам вобласьць | 12.000 | „ | „ | „ | „ | 15.500 | „ |
| 7. Ніжагародзкі край . . | 40.000 | „ | „ | „ | „ | 45.820 | „ |
| 8. Уральская вобл. . . | 37.000 | „ | „ | „ | „ | 59.700 | „ |
| 9. Башкірская АССР | 17.000 | „ | „ | „ | „ | 41.600 | „ |
| 10. Татарская АССР | 6.000 | „ | „ | „ | „ | 9.800 | „ |
| 11. Сярэдня-Вол. край . . | 21.000 | „ | „ | „ | „ | 52.500 | „ |
| 12. ЦЧВ . . . | 20.000 | „ | „ | „ | „ | 33.300 | „ |
| 13. Ніжн. Волскі край . . | 26.000 | „ | „ | „ | „ | 84.000 | „ |
| 14. Паўночна-Каўк. край (разам з Даг.) . . | 44.500 | „ | „ | „ | „ | 108.300 | „ |
| 15. Крымская АССР . . | 3.000 | „ | „ | „ | „ | 3.500 | „ |
| 16. Казакск. АССР . . | 56.000 | „ | „ | „ | „ | 255.500 | „ |
| 17 Кіргіская АССР . . | 24.000 | „ | „ | „ | „ | 46.400 | „ |
| 18. Зах. Сібір. край . . | 45.000 | „ | „ | „ | „ | 108.000 | „ |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 19. Усходн. Сіб. край (разам з Бурат-Манг АССР) . | 35.000 | „ | „ | „ | „ | 92.500 „ |
| 20. Якуцкая АССР . | 4.000 | „ | „ | „ | „ | 5.700 „ |
| 21. ДУК . . . | 5.000 | „ | „ | „ | „ | 12.700 „ |
| 22. УССР . . | 130.000 | „ | „ | „ | „ | 181.200 „ |
| 23. БССР . . | 38.000 | „ | „ | „ | „ | 45.100 „ |
| 24. ЗСФСР . | 28.000 | „ | „ | „ | „ | 38.300 „ |
| 25. Сярэдняя Азія . . | 45.000 | „ | „ | „ | „ | 74.600 „ |

б) Плян жывёлазагатовак у саўгасах (апрача камэрцыйнай рэалізацыі) разьмеркаваць па сыстэмах: „Свінавод" 48.000 тон, „Скотовод"—30.000 тон, „Овцевод"—33.000 тон, „Союзсахар"—8.000 тон, Маслааб'яднаньне—10.000 тон, іншыя саўгасы—9.000 тон.

Плян жывёлазагатовак па саўгасам разьбіць па раёнах наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Украіна . . . . . . . . . . . . . . . . | 87,5 | тыс. | тон |
| Паўночны Каўказ . . . . . . . . . . | 13,8 | „ | „ |
| ЦЧВ . . . . . . . . . . . . . . . . . | 11,9 | „ | „ |
| Ніжняя Волга . . . . . . . . . . . . | 11,2 | „ | „ |
| Сярэдняя Волга . . . . . . . . . . | 8,5 | „ | „ |
| Казакская АССР . . . . . . . . . . . | 20,5 | „ | „ |
| Заходня-Сібірскі край . . . . . . . . | 13,3 | „ | „ |
| Усходня-Сібірскі край . . . . . . . . | 1,9 | „ | „ |
| Кіргізкая АССР . . . . . . . . . . . | 5,75 | „ | „ |
| Крымская АССР . . . . . . . . . . . | 0,27 | „ | „ |
| ДУК . . . . . . . . . . . . . . . . . | 0,71 | „ | „ |
| Уральская вобл. . . . . . . . . . . . | 4,0 | „ | „ |
| Башкірская АССР . . . . . . . . . . . | 2,0 | „ | „ |
| Татарская АССР . . . . . . . . . . . | 1.1 | „ | „ |
| ЗСФСР . . . . . . . . . . . . . . . . | 1,2 | „ | „ |
| Сярэдняя Азія . . . . . . . . . . . . | 4,3 | „ | „ |

3. Плян жывёлазагатовак устанаўляць у жывой вазе з тым каб гаспадаркі маглі выканаць яго любым відам жывёлы.

4. Скасаваць якія-б там ні было абмежаваньні па забоі буйнай рагатай і дробнай жывёлы як для ўласных патрэб вясковага насельніцтва, так і для прадажу.

5. Прызнаць мэтазгодным прадаставіць калгасам, калгасьнікам і аднаасобнікам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян жывёлазагатовак, поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу буйнай жывёлы, сьвіней, авец, птушкі ўсякай і мясной прадукцыі сваіх гаспадарак на рынках, базарах і праз калгасныя крамы.

6. Забараніць мясцовым органам улады ўвадзіць-якія-б там ні былі абмежаваньні па прадажу калгасамі, калгасьнікамі і аднаасобнікамі мясной прадукцыі і іх гаспадарак, выкараняючы прыватнікаў і перакупшчыкаў—спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца на мясным гандлі працоўных сялян.

Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР
**В. Молатаў (Скрабін)**

Сакратар Цэнтральнага Камітэту Усе КП(б) **І. Сталін**

10 Мая 1932 г.

---

## ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС „аб ходзе выкананьня здачы таварнай прадукцыі трэстаб'яднаньнямі“.**

*ад 10-га мая 1932 г.*

Заслухаўшы даклады Трэстаб'яднаньняў аб выкананьні плянаў здачы таварнай прадукцыі трэстаб'яднаньнямі, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу адзначае. што побач з саўгасамі, выконваючымі плян здавальняюча (с-г Васілеўск, Бабінічы, Рудакова, Рачкавічы, Забегі), паасобныя с-г ня гледзячы на ранейшыя пастановы прэзыдыуму, яшчэ і да гэтага часу ганебна зрываюць гэты адказнейшы вучастак работы жывёлагадоўчых саўгасаў, так выкананьне па гэтых саўгасах паказвае наступнае—с-г Красьніца плян здачы таварнай прадукцыі за першы квартал 1932 г. выканаў толькі на 29%, Крывое—22%, Весялова—2,9%, Дарашэвічы—2,4%, Залог-Пяцігодкі—6,4%.

Агульна рэспубліканскае выкананьне па сыстэме саўгасаў „Сьвінавод“ па мясу вагой красавіцкі плян выкананы на 98%, у той час, калі па галовах патрэбна было здаць 1430 шт., а фактычна здана 2289 шт. Такое становішча яўна

сьведчыць аб нізкай якасьці здаваемай прадукцыі, ставячы пад пагрозу невыкананьня плянаў здачы наступных кварталаў 1932 г.

Па Белмалпрамтрэсту ў пераводзе на малочную прадукцыю (масла, сыру) плян выкананы на 42,7%.

Па Белптушкатрэсту за першы квартал здана замест 7000 шт. 5000 шт. яек.

Гэтыя лічбы паказваюць,што ня гледзячы на ўсю важнасьць гэтай гаспадарча-палітычнай задачы, некаторыя дырэктары і рабачкомы саўгасаў да гэтага часу не прынялі рашучых мер да выкананьня пляна здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, чым сарвалі плян забясьпечэньня рабочых цэнтраў малочнай прадукцыяй. Асабліва слабым месцам зьяўляецца здача уцільжыроў пабочнай прадукцыі (капыты, скура і інш.).

Улічваючы паказаннае Прэзыдыум Рэсп. к-ту **пастанаўляе:**

1. Трэстаб'яднаньням, дырэктарам і рабачкомам саўгасаў, а таксама работнікам нашых сыстэм, накіраваным на правядзеньне вясновага севу-у найкарацейшы тэрмін дабіцца рашучага павялічэньня выхада таварнай прадукцыі, шляхам лепшага догляду за жывёлай, правядзеньня зоовэтмінімуму, увядзеньня зьдельшчыны, арганізацыі гаспадарча-разліковых брыгад, ліквідацыі абязьлічкі па догляду за жывёлай.

2. Прэзыдыум яшчэ раз зварачвае ўвагу і патрабуе ад дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў устанаўленьня квартальных месячных і дэкадных плянаў здачы, асаблівую увагу ў гэтым зьвярнуўшы на давядзеньне і замацаваньне гэтых плянаў да асобных ферм і брыгад.

3. Рабачкомам і саўгаскім ІТС няўхільна сачыць за якасьцьцю выпускаемай і здаваемай жывёлагадоўчай прадукцыі, безадкладна арганізаваўшы ў кожным саўгасе брыгады з рабочых і спэцыялістаў па барацьбе за якасьць і зьніжэньне сабекошту.

4. У сувязі з наглядаючымся вялікім разрывам у сабекаштоўнасьці (сьвінога мяса, малака) жывёлагадоўчай прадукцыі, знаходзячыхся нават у аднолькавых умовах, Прэзыдыум даручае у дэкадны тэрмін дэталёва абгаварыць на вытворчых нарадах пытаньне аб сабекаштоўнасьці, прадукцыі прыняўшы практычныя мерапрыёмства да яе зьніжэньня.

5. Асаблівую ўвагу неабходна ўдзяліць здачы другарадных відаў прадукцыі (уцільжыроў, скуры, воласа, капытоў

і інш.), як маючых вялікае значэньне для нашай прамысловасьці і экспарту, устанавіўшы кантроль за выкарыстаньнем трупаў паўшай жывёлы.

6. Прэзыдыум Рэсп. к-ту зварачвае ўвагу дырэктараў і рабачкомаў с-г на недапушчэньне ні ў якім разе недавыкананьня плянаў здачы таварнай прадукцыі ў сувязі з рэарганізацыяй трэстаў і саўгасаў.

7. Лічучы недастатковай сыстэматычную работу ў саўгасах кантрольных пастоў па здачы, рабачкомам саўгасаў неадкладна ажывіць работу паказаных пастоў, вывеўшы са складу кантрольных пастоў непрацаздольных, пасыўных членаў, забясьпечыўшы ўцягненьне рабочых і ІТР-ударнікаў, якія-б рашуча павярнулі работу на сапраўдны штодзённы кантроль і дапамогу.

8. Даручыць рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Бел.“ на старонках газэты арганізаваць сыстэматычную барацьбу за выкананьне плянаў здачы таварнай прадукцыі, асьвятляючы вопыт лепшых с-г. фэрм, брыгад і жорстка бічуючы тых, што ня выконваюць сваіх абавязкаў перад дзяржавай.

9. Даручыць трэстаб'яднаньням, дырэктарам і рабачкомам с-г правесьці прэміраваньне лепшых фэрм, брыгад і асобных работнікаў, выконваючых пляны здачы таварнай прадукцыі.

10. Даручыць групе праверкі і выкананьня ўстанавіць сыстэматычны кантроль па пытаньнях здачы таварнай прадукцыі, адначасова далажыўшы Прэзыдыуму 30 мая аб выніках выкананьня гэтай пастановы.

---

# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу РЖС аб прапрацоўцы і папулярызацыі рашэньняў IX Усесаюзнага і VII Усебеларускага зьездаў прафсюзаў.**

*Ад 10-га чэрвеня 1932 г.*

Надаючы надзвычайна вялікае гаспадарча-палітычнае значэньне пастановам IX Усесаюзнага і VII Усебеларускага зьездаў прафсаюзаў, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС **пастанаўляе:**

1. Для шырокай папулярызацыі рашэньняў зьездаў

прафсаюзаў, рабачкомы павінны разгарнуць масавую работу па давядзеньні пастаноў зьездаў да кожнага рабочага, работніцы і ІТР, шляхам пастаноўкі дакладаў на агульных, цэхавых і групавых сходах.

2. Арганізаваць гурткі па прапрацоўцы рэшэнняў зьездаў, у якія абавязкова ўцягнуць ўвесь прафактыў (членаў рабачкомаў, рэўкамісій, прафгрупарганізатараў, добраахвотнікаў і рабочых ударнікаў).

3. Работа папулярызацыі і прапрацоўкі пастаноў зьездаў павінна праходзіць пад знакам мабілізацыі рабочых мас на выкананьне гаспадарча-палітычных задач, поўнага выкананьня прамфінплянаў на аснове рэалізацыі 6-ці ўмоў т. Сталіна і далейшага магутнага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

4. Неабходна з прапрацоўкай пастаноў зьездаў ўвязваць матар'ялы мясцовага характару, выкананьня абавязацельстваў, узятых на сябе па падрыхтоўцы да зьездаў, па сацыялістычных дагаворах, выкананьня прамфінплянаў і сустрэчных плянаў і г. д.

5. Для лепшай прапрацоўкі пастаноў зьездаў павінна быць разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж рабачкомамі, а таксама гурткамі. Аб праробленай рабоце рабачкомы, як правіла, павінны інфармаваць Рэсп. К-т саюзу кожную дэкаду.

---

ЗАЦЬВЕРЖАНА
Прэзыдыумам ЦК саюзу РЖС, ад 27/V-32 г.

## Мэтадычная прапрацоўка рашэньняў IX-га зьезду прафсаюзаў.

І Усю работу трэба перанесьці ў цэх, брыгаду, вучастак, пры чым прапрацоўку рашэньняў IX зьезду прафсаюзаў неабходна праводзіць пад пунктам погляду праверкі выкананьня канкрэтных абавязацельстваў, узятых на сябе ў пэрыяд падрыхтоўкі да IX-га зьезду.

Прапрацоўваючы рашэньні зьезду неабходна кожнае асобнае пытаньне ўвязваць з работай дадзенага саўгасу, правяраючы ўякім становішчы знаходзіцца гэта пытаньне і якія

меры трэба прыняць да зьнішчэньня выяўленых недахопаў Прыкладна: разьбіраючы пытаньні зарплаты-праверыць як выкарыстоўваюцца фонды па зарплаце, як праведзена нармаваньне працы, ці ўведзена зьдзельшчына, якія яе вынікі, як зьмянілася зарплата пасьля ўвядзеньня зьдзельшчыны. Тэмы прапрацоўкі павінны быць наступныя:

1) Агульныя вынікі прайшоўшых зьездаў:

Ідэйны і арганізацыйны разгромў правых прафруху, замест праваапартуністычнага процівапастаўленьня прафсаюзаў партыі, пасьлядоўнае бальшавіцкае ажыцьцяўленьне прафсаюзамі генэральнай лініі партыі, маблізацыі 17-мільённай арганізаванай арміі пралетараў пад сьцягам кампарыі на барацьбу за сацыялізм; паварот прафсаюзаў тварам да вытворчасьці, як асноўны і важнейшы лёзунг прафсаюзаў.

2) Перамога бальшавіцкіх тэмпаў:

Посьпехі ў справе сацбудаўніцтва ў барацьбе за пяцігодку ў чатыры гады. Разгортваючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва рабочая кляса уплатную падыйшла да непасрэднага ўдзелу ў плянаваньні вытворчасьці. Адгэтуль вырас магутны рух за сустрэчныя прамфінпляны. ІХ зьезд прафсаюзаў паставіў перад прафарганізацыямі ў якасьці важнейшай задачы, яшчэ большы ахоп усімі формамі сацспаборніцтва рабочых і працоўных, уцягненьне ў спаборніцтва новых рабочых, барацьбу за канкрэтнасьць і прадметнасьць спаборніцтва, супроць скажэньня ідэй сацспаборніцтве, лявацкага пераскакваньня ў вышэйшыя формы сацспабоьніцтва, мінуючы яго першапачатковую стадыю, стадыю індывідуальнага сацспаборніцтва.

„Асноўнай задачай ў разгортвньні сацспаборніцтва зьяўляецца канкрэтнае кіраўніцтва і дапамога кожнаму ўдарніку, кожнай ўдарнай брыгадзе і на гэтай аснове-падвышэньня якасьці кіраўніцтва спаборніцтвам і ударніцтвам з боку прафсаюзаў, Трэба аб‘вясьціць рашучую барацьбу пагоні за дутымі лічбамі, вочкаўціратэльству і ілжэударніцтву ў сацспаборніцтве“ (З рэзалюцый ІХ Зьезду).

3) Бальшавіцкая перабудова работы прафсаюзаў:

Старое праваапартуністычнае кіраўніцтва УсеЦСПС ня толькі ня ўзглавіла вялізарнейшага вытворчага ўздыму рабочых мас, але сваёй вузкай цэхаўшчынай, дзеляцтвам, хвасьцізмам усяляк тармазіла перабудову на новыя мэтады работы і гэтым процідзейнічала сацбудаўніцтву. Што бы

ло-б. калі-б правыя апартуністы ўзялі верх? Чаго мы дабіліся разграміўшы праваапартуністычнае кіраўніцтва і якія задчы стаяць перад профсаюзмі на даным этапе.

4) Тварам да кожнадзённых запатрабаваньняў рабочых:

Адным з важнейшых недахопаў у рабоце прафсаюзаў зьяўляецца тое, што цэлы шэраг прафарганізацый і цэлы шэраг прафработнікаў не зразумелі па сапраўднаму палітычнага значэньня і сэнсу лёзунгу „тварам да вытворчасьці". Калі правыя апартуністы процівопастаўлялі абарончыя функцыі інтарэсам сацыялістычнага будаўніцтва, то часта мае месца зваротнае процівапастаўленьне інтарэсаў вытворчасьці задачам абслугоўваньня бытавых патрэб рабочых. Тав. Кагановіч у сваім выступленьні на IX зьезьдзе з вычэрпваючай паўнатой і яскравасьцю выкрыў скажэньні ў разуменьні лёзунга „тварам да втворчасьці". Паварот прафсаюзаў „тварам да вытворчасьці" зусім не азначае таго, каб прафсаюзнік і гаспадарнік займаліся адымі і тымі-ж пытаньнямі. Для прафсаюзаў лёзунг „тварам да вытворчасьці" азначае паварот да вытворчасьці ў сваёй прафсаюзнай рабоце. Вырашаючы пытаньні зарплаты, нармаваньня працы, забясьпячэньня, жылбудаўніцтва,-прафсаюзы павінны ад гэтых пытаньняў падыходзіць да пытаньняў вытворчасьці ў цэлым. Палепшаньне абслугоўваньня рабочых, пільная увага да ўсіх іх патрэб — важнейшая палітычная задача, рашаючы рычаг у ажыцьцяўленьні павароту тварам да вытворчасьці.

5) Перабудаваць заработную плату-дабіць ураўнілаўку:

На многіх прадпрыемствах у зьвязку з адсутнасьцю своечасовага і правільнага кіраўніцтва з боку гаспадарнікаў і прафсаюзных арганізацый пры правядзеньні прагрэсыўкі былі дапушчаны грубыя скажэньні, якія прывялі да перарасходаў фондаў зарплаты. Перабудову сыстэмы зарплаты неабходна правесьці на аснове 6-ці ўмоў т. Сталіна. Зьезд абавязаў прафэсыянальныя саюзы дабіцца ліквідацыі дробна-буржуазнай ураўнілаўкі і рашуча перасекчы усялякія спробы скажэньня лініі партыі ў аплаце працы.

9) Правільна арганізаваць працу і ўзьняць на вышыню тэхнічнае нармаваньне:

Ва многіх выпадках пераход на непарыўку ня быў падрыхтаваны ў дастатковай меры. У сувязі з гэтым пераход выклікаў абязьлічку абсталяваньня, інструманта, тэхнічнага кірауніцтва. Неабходна карэнным чынам зьмяніць формы і мэтады кіраўніцтва гасарганізацыяй і прафсаюзамі ў арганізацыі працы, прывядзеньня іх у адпаведнасьці з ростам тэх-

нічнай базы прамысловасьці шляхам карэннога палепшаньня тэхнічнага нармаваньня, поўнай ліквідацыі абязьлічкі абсталяваньня і безадказнасьці ў кіраўніцтве, усямернага ўнядрэньня гасразьліку, як асноўнага мэтаду кіраўніцтва прадпрыемствам, цэхам, брыгадай.

Пытаньні тэхнічнага нармаваньня, арганізацыі рабочых мас.

(У першую чаргу гасразьліковых брыгад, ударнікаў) на барацьбу за тэхнічна абгрунтаваныя нормы выпрацоўкі, за выкананьне рашэньняў VII Пленума ўсе ЦСПС аб 60% ахопе работ ў 1932 г. тэхнічным нармаваньнем, за выкараненьне дробна-буржуазных перажыткаў у адносіне тэхнармаваньня з боку асобных адсталых груп рабочых, павінны стаць важнейшай задачай у кожнадзённай практычнай рабоце ўсіх прафсаюзных арганізацый.

7) Рабочаезабясьпячэньне важнейшае арудзьдзе ў барацьбе за прамфінплян.

Паляпшэньне становішча рабочае кясы, рост матар'яльнага добрабыту і культурнага ўзроўню рабочых непарыўна зьвязана з разгорнутым сацыялістычным наступам пралетарыяту і зьяўляецца важнейшай умовай пасьпяховага выкананьня прамфінпляну. Прафсаюзы нясуць поўную адказнасьць за работу па задавальнені матар'яльна-бытавх і культурных патрэб рабочых, у сувязі з чым пытаньні рабочага забесьпячэньня, грамадзкага харчаваньня, жыльля, паліва, аховы працы, становішча больніц і г. д павінны заняць адно з важнейшых месц у рабоце прафсаюзаў.Прафсаюзы павінны ад кіраўніцтва „наогул" у пытаньнях палепшаньня бытавых умоў рабочых перайсьці дакожнадзённай сыстэматычнай работы па зьнішчэньні ўсіх дробных недахопаў пастаноўкі справы рабочага забесьпячэньня.

„Прафарганізацыі, якія не змагаюцца з фактамі агідных адносін да забесьпячэньня рабочых, павінны пераабірацца, як ня могучыя забесьпечыць лінію партыі ў справе барацьбы за сыстэматычны ўздым матар'яльага становішча рабочых мас" (з рэзалюцый IX зьезду).

8) Увага дробязям працуючых.

Зьезд адзначыў, наяўнасьць у практыцы работы прафсаюзных арганізацый фармальна бюракратычныя адносіны да справы кожнадзённага абслугоўваньня запатрабаваньняў рабочых да так званых „дробязяй" Такія адносіны зьяўляюцца апартуністычным скажэньнем лёзунга „тварам да вытворчасьці".

Зьезд катэгорычна патрабуе ад усіх прафарганізацый, пачынаючы ад ЦК саюзаў і канчаючы цэхавымі камітэтамі рашучай барацьбы з ігнараваньнем і нядбайнымі адносінамі да абслугоўваньня матар'яльных, культурна-бытавых патрэб рабочых да „дробязяй“ рабочага быту, з няўважлівымі і бюракратычнымі адносінамі да скарг рабочых, на недахопы ў вытворчасьці, быту, у каапэрацыі і г. д.

Прафсаюзы, як масавая арганізацыя пралетарыяту павінна навучыцца групаваць вырашэньне буйнейшых пытаньняў арганізацыі працы і вытворчасьці, арганізацыі забесьпячэньня, культурнага будаўніцтва і г. д. у маштабе галіны прамысловасьці, цэха с кожнадзённым клопатам аб асобным рабочым, з уменьнем аказаць канкрэтную дапамогу рабочаму ці яго сям'і (З рэзалюцыі IX зьезду).

9) Забясьпечыць кіруючую ролю пралетарыяту ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі:

Уся далейшая работа прафсаюзаў у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі паінна быць накіравана на падвышэньне таварнасьці саўгасаў і калгасаў. арганізацыю працы, на ліквідацыю абязьлічкі, унядрэньне гасразьліку шляхам перанясеньня ў саўгасы і калгасы вытворчага вопыту лепшых прадпрыемстваў ў справе далейшага разгортваньня рабочага шэфства павінен быць узяты курс на перабудову шэфскай работы ў бок пераходу з агульнага шэфства над раёнамі да шэфства над асобнымі, калгасамі, брыгадамі, фэрмамі, асобнымі галінамі калгаснай гаспадаркі.

10) За канкрэтнасьць і апэрацыйнасьць у кіраўніцтве:

Задачай прафэсыйных саюзаў зьяўляецца рашучае выкарчоўваньне астаткаў і перажыткаў трэд'юніонскай апартуністычнай спадчыны ў мэтадах кіраўніцтва, палепшаньня якасьці работы прафапарату, правільнага кантролю і праверкі выкананьня. Перанясеньне цэнтра цяжару прафсаюзнай работы на прадпрыемствы патрабуе раней за ўсё узмацненьня нізовых зьвеньняў падрыхтаванымі кадрамі рабочых.

11) Задача культурна-палітычнай работы прафсаюзаў;

Прафсаюзы, ўзмацняючы клясавую пільнасьць, апіраючыся на ўдарніка і на старыя кадры рабочых, павінны праводзіць непаслабную барацьбу з усялякімі спробамі кулацкага ўплыву на асобныя групы адсталых рабочых, павінны ўсю сваю бальшавіцкую работу ў масах паставіць на ўзровень сучасных задач партыі і рабочай клясы, у той час зрабіць яе агульнадаступнай, зразумелай рабочым. Уся

масавая палітычная рабта прафсаюзаў павінна праводзіцца дапасавана да розных пластоў рабочых.

Абапіраючыся на ўдарнікаў, на старыя кадры рабочых, прафсаюзы павінны павесьці рашучую барацьбу за новую працдысцыпліну супроць дробнабуржуазнай расхлябанасьці, рвацтва і дробнаўласных перажыткаў „тых жменек і пластоў рабочых, якія ўпарта трымаюцца традыцыі, прызвычаеньняў капіталізма і працягваюць глядзець на савецкую дзяржву па ранейшаму: даць „ёй“ работы паменш, пагорш і садраць з „яе“ грошай пабольш„. (ЛЕНІН).

Прафсаюзы павінны ўнядрыць у сьвядомасьць гэтых пластоў, што рабочы ёсьць гаспадар краіны, што ён працуе на сябе, на сваю ўласную клясу (з рэзалюцый IX Зьезду).

12) Другая пяцігодка і сусьветны крызіс капіталізма:

Ажыцьцяўляючы лёзунг „дагнаць і перагнаць“ капіталістычныя краіны у тэхніка-эканамічных адносінах, Савецкі Саюз павінен будзе да канца пяцігодкі заняць па чыгуну першае месца ў Эўропе, па вуглю апярэдзіць Нямеччыну, Францыю і заняць адно месца з Англіяй, па нафце другое месца ў сьвеце пасьля САЗШ, па аўтамабілебудаўніцтву другое месца пасьля САЗШ, па электра-энэргіі адно месца з Амэрыкай наперадзе ўсіх іншых краін. У сувязі з разгортваньнем лёгкай прамысловасці і ростам с/г вытворчасьці на аснове суцэльнай калектывізацыі, арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў і вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, колькасьці спажывецкіх і прадавольственных тавараў павінна павялічыцца ўдва-тры разы і адпаведна гэтаму павінен ўзрасьці матар'яльны дабрабыт працоўных.

---

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму РЭСП. К-ТУ Саюзу РЖС аб практычных мерапрыемствах па выкананьні жывёлагадоўчымі саўгасамі пастановы ЦВК і СНК СССР—„аб разьвіцьці і захаваньні конскага пагалоўя“ ад 27-га мая 1932 года.**

*Ад 10-га чэрвеня 1932 г.*

1) Канстатаваць зусім нездавальняючае становішча конскага пагалоўя ў саўгасах, драпежніцкія адносіны да каня (саўгас Рагінь, Блюхера, Калініна і інш.).

Пастановы Пленуму Рэсп. К-ту ад 2/IV-32 г. і зьлёту гасразьліковых брыгад ад 3/IV-32 г. аб рашучай барацьбе з абязлічкай каня, трактара большасьцю кіраўніцтвам саўгасаў ня выконваюцца.

Рабачкомы саўгасаў не займаюцца пытаньнямі захаваньня і рацыянальнага скарыстаньня рашаючай цягавай сілы—каня.

Злачынна марудна праходзіць злучная кампанія.

Канстатуючы здавальняючыя вынікі злучной кампаніі (75% на 10/VI і выжэрэбку 91% у конесаўгасе), адзначыць зусім нездавальняючую папулярызацыю конегадоўлі вакольным саўгасам і калгасам.

Не праводзіцца аплата працы ня толькі ад выкананьня норм выпрацоўкі, але і ад стану здароўя і сытасьці каней.

Улічваючы, што конь ў саўгасах зьяўляецца рашаючай цягавай сілай, Рэсп. К-т саюзу РЖС Пастанаўляе:

1) Абавязаць рабачкомы на вытворчых нарадах саўгасаў, брыгадах, намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па палепшаньні і разьвіцьці конскага пагалоўя ў саўгасе, згодна пастановы ўраду.

2) Праверыць ход злучной кампаніі і дабіцца выкананьня пляну злучкі, выканаўшы адпаведныя дырэктывы НКЗБ у гэтай справе.

3) Правесьці прымацаваньне ўсіх коняй да паасобных рабочых, зьліквідаваўшы сапраўдна абязлічку, прэміруючы рабочых ня толькі за выкананьне норм выпрацоўкі, але і за добрыя адносіны да каня.

4) Прапанаваць трэстам і плянава-вытворчаму сэктару ў 2-х дэкадны тэрмін прапрацаваць нормы нагрузкі на каня.

5) Плянава-вытворчаму сэктару з трэстаб'яднаньнямі прапрацаваць пытаньне аб магчымасьці пераводу канюшань на гаспадарчы разьлік.

6) Прапанаваць дырэкцыі і заўкому конесаўгасу намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па распаўсюджваньні свайго вопыту конегадоўлі ў саўгасах і калгасах БССР, шляхам правядзеньня дакладаў і праз друк.

7) Даручыць рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Бел." правесьці агляд конегадоўлі праз газэту, шматтыражкі і насьценгазэты.

# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму рэсп. к-ту саюзу РЖС па дакладу трэстаб"яднаньняў „аб ходзе падрыхтоўкі да сенауборачнай кампаніі 1932 г."-**

*ад 10/VI-1932 г.*

1) Заслухаўшы і абгаварыўшы пытаньне падрыхтоўкі жывёлагадоўчых саўгасаў на сенауборачнай кампаніі, Прэзыдыум Рэсп. К-ту, выходзячы з пастановы СНК СССР і ЦК Усе КП(б) ад 30/VII-31 г. абавязваючай жывёлагадоўчыя саўгасы цалкам забясьпечыць сваё пагалоўе статка грубамі кармамі, лічыць, што сенауборачная кампанія 1932 г. зьяўляецца адказнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніяй,маючай вялізарнейшае значэньне ў справе падвядзеньня прочнай кармавой базы пад сацыялістычнае жывёлаводства.

2) Прэзыдыум Рэсп. К-ту звастрае ўвагу трэстаб'яднаньняў, дырэктароў і рабачкомаў саўгасаў на недапушчэньне ў час правядзеньня сенауборкі-памылак мінулага году-адначасова пераносячы вопыт і ўрокі станоўчых бакоў.

3) Прэзыдыум Рэсп. К-ту лічыць, што з боку трэстаб"яднаньняў яшчэ да гэтага часу не разгорнута адпаведная работа па сваечасовай арганізацыі мерапрыемстваў, забясьпечваючых посьпехі сенауборкі, чым ставіцца пад пагрозу невыкананьня сенауборачнай кампаніі.

4) Асаблівую увагу ў пасьпяховым заканчэньні сенауборкі павінна заняць месца скарачэньне тэрмінаў, выходзячы з таго, што гэта мае вялізарнае значэньне ў справе атрыманьня якаснага сена. Прэзыдыум Рэсп. К-ту даручае рабачкомам гэту работу правесьці арганізацыяй па асобных вучастках камбінаваных сенауборачных гаспадарча-разьліковых брыгад з разьлікам таго, каб ў брыгадзе ўтвараліся усе працы пачынаючы ад сенакашэньня і канчаючы стагаваньнем, гэтым самым на справе ліквідуючы абязьлічку. Арыентыровачна лічыць мэтазгодным арганізацію такіх брыгад на сенакоснай плошчы ня менш як 25 га. Арганізацыю брыгад і замацаваньня апошніх за вучасткамі закончыць да 20-га чэрвеня г. г.

5) Улічваючы, што посьпехі сенауборкі будуць залежаць ад 100% ахопу сенауборачных работ зьдзельшчынай, і аплатай ад цэнтнэра атрыманага сена.— Прэзыдыум Рэсп. К-ту даручае трэстаб"яднаньням у 2-х дзённы тэрмін распрацаваць зьдзельныя расцэнкі на цэнтнэр сена для кожнага віда ка-

сімых угодзяў і па ўзгадненьні з саюзам апусьціць у саўгасы. Дырэктарам і рабачкомам саўгасаў у гэтай работе, праз мабілізцыю рабочага калактыву забясьпечыць мабілізацыю рабочых на вярбоўку патрэбнай рабочай сілы, арганізацыю бальшавіцкіх тэмпаў, барацьбу за якасьць работы, спаборніцтва з сумежнымі саўгасамі, спаборніцтва асобых брыгад, брыгадзіраў і інш.

6) Лічыць патрэбным пасылку на час ўсей сенаўборкі адказных работнікаў трэстаў і Рэсп. К-ту - у тыя саўгасы,якія налічываюць укосную плошчу звыш 500 га. Т. Канашу ў 5-ці дзёны тэрмін сумесна з трэстамі вызначыць саўгасы-прымацаваўшы канкрэтных адказных работнікаў.

7) Улічвая недахоп патрэбнай сенаукоснай плошчы па саўгасам сыстэмы „Сьвінавод“ -прасіць Наркомзем Беларусі прыняць адпаведныя захады да хутчэйшага адводу сенаукосных угодзяў.

8) У сувязі з тым,што сенауборачныя плошчы знаходзяцца па многіх саўгасах на вялікай адлегласьці ад саўгаса і рабочыя будуць на некаторы час адорваны зусім ад саўгасаў рабачкомам саўгасаў забясьпечыць абслугаваньне рабочых у полі паходнымі, бібліатэкамі пастаноўкамі, газэтамі.

9) Прэзыдыум Рэсп. К-ту абавязвае трэстаб“яднаньні, дырэктароў і рабачкомы саўгасаў-арганізацыяй адпаведных і сваечасовых мерапрыемстваў забясьпечыць па усіх сенакосных вучастках 2 укосы-невыкананьне паказанай задачы будзе разглядацца як сьвядомы зрыў стварэньня уласной кармавой базы.

10) Жыўсаўгасэкцыі і рабачкомам саўгасаў безадкладна забясьпечаннасьцю неабходнымі прыладамі арганізаваць на час сенауборкі дастаўку на поле ў тэрмасах і паходных кухняў-гарачай стравы.

11) Куркамісіі Рэсп. К-ту забраніраваць 15--20 месц на курорты, дамы адпачынку для прэміраваньня лепшых брыгад і брыгадзіраў саўгасаў, пасьпяхова скончыўшых сенаўборку. Рабачкомам і дырэктарам саўгасаў, побач з гэтым вылучыць з фонду прэміраваньня адпаведныя грашовыя сродкі для прэміраваньня.

12) Выклікаць на сацпаборніцтва на лепшее правядзеньне сенауборкі Заходні Обласны К-т нашага саюзу, для чаго Плянава- Вытворчаму сэктару ў 2-х дзённы тэрмін скласьці нашы умовы дагавору.

13) Групе праверкі і выкананьня Рэсп. К-ту забясьпечыць сыстэматычную праверку выкананьня гэтай пастановы.

# ПАСТАНОВА.

**Прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу РЖС „аб мерапрыемствах па абвешчаным агразоотэхпаходзе.“**

*Ад 10/VI-32 г.*

1. Надаючы вялізарнейшае гаспадарча-палітычнае значэньне аб'вешчанаму агразоотэхпаходу—як сродку мабілізуючаму рабочых і ІТР, сацыялістычнай жывёлагадоўлі на больш упартую барацьбу за колькасныя і асобліва якасныя тэмпы, выкананьня і перавыкананьня вытворчай праграмы, пастаўленай партыяй і ўрадам у 1932 г. перад жывёлагадоўчымі саўгасамі.

Улічваючы яшчэ недастатковай работу дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў у справе рашучага і поўнага ўнядрэньня агразооветмінімума—пабудаваных на практычных мерапрыемствах рэалізцыі 6-ці умоў т. Сталіна-забясьпечваючых высокую якасную таварнасьць жывёлагадоўчых саўгасаў, Прэзыдыум Рэсп. К—ту саюзу патрабуе ад дырэктараў, рабачкомаў і сэкцый спэцыялістаў, праз правядзньне адпаведнай масавай работы-забясьпечыць выкананьне наступных мерапрыемстваў:

а) Уключыцца ў агразоотэхпаход, безадкладна на цэхавых, вучастковых, фэрменных і брыгадных вытворчых сходах рабочых дэталёва абгаварыўшы праграму Наркамзему БССР аб правядзеньні агразоотэхпаходу, вызначыўшы канкрэтныя мерапрыемствы па кожным цэху, фэрме, брыгадзе,—забясьпечваючыя выкананьне пастаўленых задач.

б) У справе зьліквідаваньня безадказнасьці, абязьлічкі, атрыманьня большага станоўчага эфэкту-патрэбна па кожным вызнчаным мерапрыемству вылучыць адказных асоб, абмяжаваць кожнае мерапрыемства жорсткімі тэрмінамі, не дапушчаючы ні ў якім разе заместа практычнага вырашэньня—вынасіць пастановы агульных разважэньняў.

в) Прэзыдыум Рэсп. К—ту саюзу асабліва патрабуе ад сэкцый спэцыялістаў жыўсаўгасаў, забясьпечыць тэхнічнае ўзглаўленьне ўсёй гэтай работы, кожную брыгаду, кожную фэрму павінен узглаўляць спэцыяліст, які абавязан у парадку перадачы рабочым тэхнікі забясьпечыць выкананьне якаснай барацьбы агразооветмінімуму.

г) Аб прынятых захадах і выніках ходу выкананьня пастауленых задач агразоотэхпаходам—сыстэматычна інфармі руйце Рэсп. К—т саюзу.

д) Групам Праверкі і Выкананьня Рэсп. К—ту і саўгасаў забясьпечыць сталы кантроль і правядзеньне гэтай адказьнейшай кампаніі.

---

# Усім дырэктарам рабачкомам і сэкцыям спэцыялістых жывёлагадоўчых саўгасаў.

## Аб сіласнай кампаніі 1932 г.

Для забесьпячэньня пасьпяховага выкананьня вызначаннага Партыяй і Урадам заданьня жывёлагадоўчым саўгасам на 1932 г. па сіласаваньню—як аднаму з аснаўных сродкаў стварэньня ўласнай кармавой базы—Рэсп. К-т Саюза РЖС і Трэстаб'яднаньні ўлічвая, што па саўгасам праводзіцца недастатковая работа па правядзеньню сіласнай кампаніі (сіласнае будаўніцтва—вежы, ямы, траншэі)—прапануе В/неадкладна разгарнуць шырокую масавую работу вакол задач сіласаваньня. за выкананьне і перавыкананьне гэтай адказнейшай часткі прамфінпляну жывёлагадоўчых саўгасаў.

Усю работу па падрыхтоўке і выкананьню пляна сіласаваньня кармоў неабходна арганізаваць на падставе прыцягненьня да гэтай справы праз абгаварэньне на вытворчых нарадах шырокія колы рабочых і ІТР жывёлагадоўчых саўгасаў.

Вытворчая нарада ў гэтай рабоце павінна абавязкова абгаварыць і вырашыць наступныя задачы:

а) Устанавіць каляндарны плян сіласаваньня ў тэрмін па паасобных сіласных культурах і па паасобных сіласных установках

б) Утварыць разьлік патрэбнай сыравіны для закладкі сіласу пры уліку поўнага і своечасовага пляна сіласаваньня (пасеўные і сіласные культуры, сарнякі, адыход культур.)

в) Неадкладна давесьці плян сіласаваньня да фэрм, цэхаў і асабліва да сіласных брыгад.

г) Арганізаваць па кожнай сіласнай установке асобные гаспадарча-разьліковыя брыгады—з якімі зараз-жа патрэбна заключыць дагаворы.

Работа сіласных брыгад і аплата павінна будавацца на падставе перавода на неабмяжоўную прамую зьдзельшчыну ç аплатай ад тоны засіласаванай масы.

Брыгады павінны стварыцца камбініраванымі з закончаным працэсам сіласаваньня гэта значыць—пачынаючы з уборкі сіласных культур і канчаючы самім сіласаваньнем,

д) Вылучыць з ліку спэцыялістых саўгасаў—адказную асобу за выкананьне патрабаваньняў агратэхнікі—па сіласным культурам своечасовую ўборку і выкарастаньне усей мажлівай для сіласаваньня сыравіны, правільнае запаўненьне сіласных башэнь, ям, траншэй.

е) Устанавіць дзённы календарны плян будаўніцтва новых і рамонту ужо маючыхся сіласных пабудоў—зрабіўшы максымальны упор на своечасовасьць будаўніцтва і на мэханізацыю працэсаў сіласаваньня.

ж) Выкарастаць ўсе мажлівые мясцовые будматар'ялы да сіласнага будаўніцтва, своечасовая перавозка да кропак будаўніцтва ўсіх прыбываючых на адрэс камплектаў башань і іншых матар'ялаў.

з) На працягу 2-х дэкад праз арганізацыю каротка-тэрміновых курсаў, лекцый, бясед—падрыхтаваць кваліфікаваных брыгадзіраў—з разьлікам адзін стэрэйшы брыгадзір на кожную—гаспадарча-разьліковую сіласную брыгаду.

і) Забясьпечыць разгортваньне сацспаборніцтва, рост ударніцтва паміж брыгадзірамі—на колькасьць і якасць выкананьня задач сіласнай кампаніі.

к) Стварыць сіласныя кантрольныя пасты, якія павінны безадкладна зьвязацца з газэтай „Сельгасрабочы Беларусі".

л) Забясьпечыць сыстэматычную інфармацыю трэсту і Рэспубліканскаму Камітэту аб ходзе падрыхтоўкі правядзеньня сіласнай кампаніі.

Старшыня Рэспубл. К-ту **Падвойскі.**

Дырэктар Менскага Трэста „Сьвінавод" **Аўчынікаў.**

Дырэктар Белмолпром Трэста **Сьмірноў.**

Дырэктар Белптушка-трэста **Лукашэвіч.**

Старшыня ЦБІТС **Стасевіч.**

Адбітак.

# Усім краёвым, абластным і рэспубліканскім камітэтам саюзу РЖС.

## Аб зборы насеньня дзікарастучых.

У мэтах хутчэйшага колькаснага і якаснага разьвіцьця лугавой і пасьбішчнай гаспадаркі на аснове асваеньня як новых плошчаў, так і асабліва кульцівіраваньня новых дзікарастучых каштоўных кармовых траў, НКЗемом СССР дадзена заданьне усім Земляўпраўленьням і с. г. аб'яднаньням арганізаваць збор насеньня дзікарастучых ў аб'ёме 25.000 цэнтнераў.

Надаючы выключна гаспадарчае значэньне правадзімаму мерапрыемству, накірованаму на упрачненьня кармавой базы ў жывёлагадоўчых саўгасах, ЦК саюза РЖС прапануе усім Край, Обл. і Рэспубліканскім камітэтам наступнае:

1. Арганізаваць сумесна з земляўпраўленьнямі і мясцовым друкам праверку жывёлагадоўчых трэстаў у частцы асваеньня імі кантрольных заданьняў па збору насеньня дзікарастучых і давядзеньня гэтых заданьняў да саўгасаў, а таксама практычна і арганізацыйныя мерапрыемствы трэстаў па рэалізацыі плянавых заданьняў.

Адначасова правесьці праверку саюзнасенгадоўчых трэстаў у частцы заключэньня апошнімі дагавораў з жыўтрэстамі і ажыцьцяўленьня з боку насенводтрэстаў апэрацыйнага кіраўніцтва загатоўчай кампаніі.

2. Даць практычныя указаньні РК саўгасаў і мясцовым секцыям ІТР аб арганізацыі праверачных рэйдаў з удзелам ударнікаў і спэцыялістаў па праверцы саўгасаў к гатоўнасьці збору насеньня.

Ва указаньнях РК прадугледзіць:

а) Кантрольныя заданьні саўгасу па збору насеньня падзяленьнем на віды расьлін;

б) Ці прапрацованы гэтыя заданьні на тэхнічных вытворчых нарадах саўгасу і практычныя мерапрыемствы як дырэкцыі, так і прафарганізацыі накіраваныя на рэалізацыю гэтых заданьняў.

в) Ці адведзены адпаведныя плошчы — запаведнікі з насеньнікамі траў і якія меры прыняты па падвышэньні ураджаю гэтых траў і па ахове іх ад патраў, пакосаў, асабліва пажараў.

г) Ці выдзелены у саўгасах ад дырэктарата адказныя асобы за правядзеньне гэтай кампаніі.

3. Усю гэту працу ЦК прапануе скончыць не пазьней 1-га чэрвеня і падрабязна інфармаваць ЦК аб праробленай рабоце.

Сакратар ЦК саюзу РЖС **Ю. Вэндэ.**

Заг. сэктарам вытворч. і плянаваньня **Мілежкін.**

---

## Усім старшыням рабачкомаў жывёлагадоўчых саўгасаў.

Яшчэ ў красавіку месяцы г. г. намі быў пасланы ліст усім рабачкомам з катэгарычнай прапановай павялічыць колькасьць чытачоў на газэту „Сельгасрабочы“ (маскоўскі). Але на вялікі жаль мы павінны канстатаваць факт прарыву на гэтым вучастку, тыраж замест павялічэньня мае вялікае зьніжэньне. Такое становішча далей працягвацца ня можа, тыраж газеты на ліпень за наступныя месяцы павінен быць ва што бы та ні стала павялічаны. Для пасьпяховага правядзеньня работы па павялічэньні тыражу, прапануем правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Вылучыць у кожным саўгасе, брыгадзе зборшчыкаў падпіскі на газэту „Сельгасрабочы“ аслабаніўшы іх ад іншай грамадзкай нагрузкі.

2) Даць цьвёрдае кантрольнае заданьне.

3) Арганізаваць спаборніцтва паміж брыгадамі, зборшчыкамі падпіскі на лепшае выкананьне і перавыкананьне кантрольнага заданьня, устанавіўшы для гэтай мэты прэміяльны фонд.

4) Шырока правесьці масава-агітацыйную кампанію па прасоўваньні газэты, выкарыстоўваючы абедзенны перапынак, сходы, нарады і г. д.

5) Работу па прасоўваньні газэты ўключыць у плян культ-работы рабачкома.

6) За лік сродкаў рабачкомаў выпісаць усім цэхкомам і для рабачкомаў газэты „Сельгасрабочы“.

Рэсп. К-т саюзу РЖС упэўнены, што апрача пералічаных тут мэтадаў работы вы правядзеце яшчэ цэлы шэраг мерапрыемстваў, у адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі, якія бязумоўна гарантуюць посьпех у рабоце.

У ліпені месяцы на паседжаньні Прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу будуць заслуханы даклады асобных рабачкомаў аб праведзенай рабоце па газэце „Сельгасрабочы", таму не пазьней 1/VII—г. г. прышліце нам зьвесткі аб колькасьці завербаваных падпісчыкаў і праведзеных мерапрыемствах.

Падпіску здавайце бліжэйшай пошце, падпісная плата на 12 м-цаў 4 р., на 6 м-цаў — 2 руб., на 3 м-цы 1 руб. на 1 м-ц 35 к. газэта выходзіць праз дзень.

Старшыня Рэсп. К-ту саюзу РЖС **Падвойскі**

---

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. к-ту Саюзу РЖС па пытаньню аб арганізацыі рабочых курсаў для брыгадзіраў (старшых сьвінароў) і сьвінароў праз газэту „Сельгасрабочы Беларусі".**

*Ад 21|V-32 г.*

Выходзячы з таго, што аўладаньне тэхнікай сьвінагадоўлі зьяўляецца адным з важнейшых рашаючых зьвеньняў ў выкананьні брыгадзірамі (старшымі сьвінарамі і сьвінарамі) колькасных і якасных паказальнікаў, вызначаных пастановай НКЗ СССР і БССР па Усесаюзным конкурсе на лепшага старшага сьвінара і тым самым забясьпечвае захаваньне сьвінапагалоўя, выкананьне плянаў злучнай кампаніі, фарсаванага адкорму і здачы саўгасамі таварнай прадукцыі дзяржаве, Прэзыдыум Рэсп. К-ту Саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Поўнасьцю адобрыць і падтрымаць ініцыятыву рэдакцыі „Сельгасрабочы Бел" у арганізацыі праз газэту завочных курсаў для брыгадзіраў і сьвінароў.

2) Зацьвердзіць штаб кіраўніцтва курсамі завочнага навучаньня ў складзе т. т. Вігдаровіча, (старшыня: адказны рэдактар газэты), ад саюзу РЖС т. Стасевіча, ад сьвінаводтрэсту т. Гарыленкаў і ад НДІ-т. т. Самусевіч і Змушка.

Прасіць НКЗБ і Сьвінаводтрэст прымацаваць т. Змушка да работы па арганізацыі курсаў.

3) Прапанаваць усім рабачкомам сьвінасаўгасаў і племгаспадарак безадкладна прыступіць да вярбоўкі завочнікаў і стварадь для іх умовы, якія-б найбольш спрыялі арганізацыі вучобы (групавыя заняткі пры дапамозе і кіраўніцтва спэцыялістаў саўгасаў, набыцьцё літаратуры, прэміраваньне лепшых завочнікаў і г. д.)

4) Даручыць ЦБ ІТС даць практычныя паказаньні мясцовым бюро аб абавязковасьці для спэцыялістаў саўгасаў арганізаваць дапамогу кіраўніцтва ў завочным навучаньні брыгадзірам і сьвінарам.

---

## Усім рабачкомам і ІТР сьвінагадоўчых саўгасаў.

*Паважаныя таварышы.*

На пасяджэньні Прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу РЖС ад 21-га мая вынесена рашэньне аб ўсямернай падтрымцы ўсімі арганізацыямі н/саюзу ініцыятывы газэты „Сельгасрабочы Бел.“ па арганізацыі завочнага навучаньня праз газэту для брыгадзіраў і сьвінароў.

Арганізацыя завочных курсаў праз газэту мае выключнае значэньне для справы ауладаньня тэхнікай сьвінагадоўлі брыгадзірамі сьвінарамі. Мэта курсаў—дапамагчы брыгадзірам і сьвінарам атрымаць веды па тэхніцы сьвінагадоўлі, якія павінны забясьпечыць правільны дагляд і кармленьне сьвінагалоўя правільнае правядзеньне злучнай камкампаніі, фарсаваны адкорм і выкананьне пляну задачы таварнай прадукцыі пралетарскай дзяржаве.

Выходзячы з гэтага ўсе рабачкомы сьвінасаўгасаў павінны безадкладна разам з дырэктарамі саўгасаў распрацаваць рад канкрэтных мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць пасьпяховую арганізацыю курсаў, пасьпяховую вучобу завочнікаў.

Практычныя мерапрыемствы рабачкомамі павінны быць распрацаваны і ажыцьцяўлены ў наступным напрамку:

1) Паставіць на абгаварэньне рабачкому і вытворчых нарад рабочых і работніц сьвінарнікаў пытаньне аб ауладаньні тэхіккай і ў прыватнасьці аб завочным навучаньні брыгадзіраў і сьвінароў праз газэты „Сельгасрабочы Бел“. У 34 нумары „Сальгасрабочага Бел“. надрукована анкета

для завочнікаў. Трэба, каб брыгадзір, сьвінар, сьвінарка якія жадаюць вучыцца на гэтых завочных курсах запоўнілі гэтую анкэту і па завярэньні яе рабачкомам даслалі безадкладна яе ў рэдакцыю.

Абавязак рабачкому, цэхавых і брыгадных прафарганізатараў заключаецца ў тым, каб не засталося ў саўгасе ні воднага брыгадзіра і сьвінара, сьвінаркі, якія ня былі-б слухачамі гэтых завочных курсаў.

Вярбоўка завочнікаў павінна быць закончана не пазьней 10-га чэрвеня, бо лекцыі пачнуць друкавацца ў газэце „Селгасрабочы Бел“. не пазьней 15 чэрвеня.

2) Рабачкомы і дырэкцыі саўгасаў павінны забясьпечыць найбольш спрыяючыя умовы для слухачоў завочных курсаў па сьвінагадоўлі. За кошт рабачкомаў абавязкова трэба набыць спэцыяльныя дапаможнікі, часапісі і навогул літаратуру па сьвінагадоўлі. Трэба арганізаваць гурткі завочнікаў ў саўгасах і дабіцца такога становішча, пры якім было-б забясьпечана практычнае кіраўніцтва гэтымі гурткамі з боку спэцыялістаў саўгасаў.

3) Рабачкомы і мясцовыя бюро сэкцый ІТР павінны арганізаваць прымацаваньне спэцыялістаў да поўных гурткоў і ускласьці на іх абавязак кансультацыі пры вучобе, дапамогу ў вывучэньні спэцыяльнай літэратуры, пэрыядычныя праверкі ведаў завочнікаў згодна паказаньняў цэнтральнага штабу курсаў завочнага навучэньня пры газэце „Сельгасрабочы Бел.“

Трэба мець на увазе, што на працягу работы курсаў будуць правадзіцца канфэрэнцыі з завочнікамі. Зразумела, што правадзіць гэтыя канфэрэнцыі зьверху—з Менску ня будзе ніякай магчымасьці, ды гэта і ня мэтазгодна. Трэба, каб загадзя рабачкомамі і мясцовыя бюро сэкцыі вылучылі спэцыялістаў якія - здольны самастойна правадзіць канфэрэнцыі з завочнікамі і праверку іх ведаў.

4) Паколькі газэта „Калгасьнік Бел.“ таксама уключылася у арганізацыю завочнага навучэньня для сьвінароў калгасьнікаў, трэба улічыць, што на ўсіх сьвінагадоўчых таварных фэрмах калгасаў ёсьць спэцыялісты зоотэхнікі, ветўрачы. Абавязак спэцыялістых саўгасу дапамагаць ў падшэфных і бліжэйшых калгасах арганізацыі і вучобе завочнікаў-калгасьнікаў.

5) Рэдкалегіі шматтыражак, насьцэнгазэт саўгасаў цэхавых брыгадных газэт таксама павінны уключыцца ў арганізацыю завочнага навучаньня. Асноўная задача нізавога

друку ў гэтым напрамку гэта арганізацыя масавага кантролю і самаправеркі ходу работы па аўладаньні тэхнікай сьвінагадоўлі, работай спэцыяльных гурткоў завочнікаў спэцыялістыя якія кіруюць гэтымі гурткамі.

У кожнай насьценгазэце павінен быць арганізован куток „Аўладай тэхнікай", да работы ў якім трэба прыцягнуць спэцыялістаў, арганізаваць кансультацыі па даглядзе і кармленьні, злучнай кампаніі, адкорма і г. д., згодна мэтадычных паказаньняў цэнтральнага штаба кіраўніцтва курсамі завочнага навучаньня пры газэце „Сельгасрабочы Бел".

6) Усе лекцыі для завочнікаў, як і праграма лекцыі, мэтадычныя паказаньні і паказаньні аб літаратуры будуць друкавацца ў газэце „Сельгасрабочы Бел.", таму рабачкому і мясцовыя Бюро ІТС павінны забясьпечыць каб кожны завочнік быў падпісчыкам газэты. Работу завочных курсаў газэты трэба скарыстаць для найбольшага павялічэньня тыражу газэты.

Прэзыдыум Рэспубліканскага К-ту саюзу РЖС прапануе рабачкомам і бюро секцыі ІТС у 10 дзённы тэрмін прыслаць справаздачу аб праробленай рабоце ў сувязі з арганізацыяй газэты „Сельгасрабочы Бел." завочных курсаў для брыгадзіраў (старшых сьвінароў і сьвінароў).

Старшыня Рэсп. К-ту саюзу РЖС **Падвойскі.**

Старшыня ЦБ ІТС **Стасевіч**

---

# ПРАГРАМА

## 4-х месячных завочных курсаў праз газэту „Сельгасрабочы Бел" і „Калгасьнік Беларусі." для брыгадзіраў (старшых сьвінароў) і сьвінароў і заг. СКТФ.

Завочныя курсы арганізованыя праз друк маюць сваей мэтай унядрэньне асноў тэхнікі сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў шырокія масы старшых сьвінароў-брыгадзіраў, сьвінароў, загадчыкаў СКТФ і усіх працаўнікоў сьвінагадоўчых гаспадарак. Курсы разлічаны на 4-месяцы. Матар"ялы—лекцыі—будуць друкавацца адзін раз ў пяцідзёнку, г. зн. праграма разлічваецца на 24 увязаных паміж сабой гутаркі.

## Мэтадычныя указаньні.

Для прапрацоўкі матар"ялаў, зьмешчаных у газэце, у кожным саўгасе і СКТФ арганізоўваюцца гурткі.

Іраўнікам гуртка прызначаецца заатэхнік. Пры адсутнасьц апошніх, асабліва ў СКТФ, гаспадарка павінна дабіцца, каб кіраўнікі прысутнічалі на занятках з суседніх саўгасаў і СКТФ, дзе яны маюцца. Гурткі працуюць у вольны час два разы у пяцідзёнку па дзьве гадзіны. На кожную лекцыю вызначаецца для яе прапрацоўкі 4 гадзіны.

Для арганізацыі прапрацоўкі і падвядзеньня вынікаў па працаваных матар"ялах правесьці дзьве 1-2 дзённых раёных (куставых у саўгасе і СКТФ) канфэрэнцыі завочнікаў у пачатку і канцы вызначанага тэрміну.

### Тэма 1-я (Лекцыя)

Дырэтктывы Партыі і Ураду аб разьвіцьці соц. сьвінагадоўлі рашэньні ХУІІ Усе Партканфэрэнцыі аб разьвіцьці жывёлагадоўлі ў другую пяцігодку. Рэалізацыя сыстэмы кіраўнікоў зьверху да нізу у сац. сьвінагадоўлі і арганізацыя вытворчасьці: Трэст сьвінавод, сьвінаводкалгассаюз, сьвінасаўгас, сэктар сьвінафэрма сьвінарнік з закалгасным зваротам стада.

### Тэма 2-я.

Лекцыя 2-я Біялёгічная характарыстыка сьвіні, як вытворцы мяса-сала.

Пабудова ўнутраных органаў у сьвіні у параўнаньні з другімі відамі жывёлы. Сьвіньня, жывёла ўсяедная, пладавітая, хуткасьпелая, добра пераводзіць кормы ў мяса. Параўнаўчыя дадзеныя Экстэр"ер і канстытуцыя,

### Тэма 3-я

### Пароды сьвіней і расплод.

Лекцыя 3-я Пахаджэньне дамашніх сьвіней ад дзікіх прэдкаў. Пароды даўняга пахаджэньня: кітайская, эўрапейская доўгавухая і кароткавухая, венгерская, раманская. Культурныя пароды сьвіньней: буйная, белая, ангельская, сярэдня-ангельская, бакшыры, нямецкая і дацкая. Мясцовая—Беларуская, Мясцовыя сьвіні і іх значэньне ў параўнаньне з іншакраявымі пародамі.

Лекцыя 4-я Тэхнікамі мэтадыка завадзкой работы. Злучка і штучнае абсемяненьне. Цечка, калі матак і кныроў мо-

жна пускаць у злучку, узрост. Чысты расплод. Кроўны расплод, паглынаньне крыві, асьвяжэньне крыві, „воспроізводственное“ скрыжваньне. Падбор матак па малочнасьці здольнасьці гадаваць парасят, крэпасьці, хуткапасьпеласьці. Ацэнка кныроў па племянной якасьці. Завадзкія запісі.

Тэма 4-я.

### Корм і кармленьне сьвіней.

Лекцыя 5-я. Кармовая база як аснова разьвіцьця сацыялістычнай сьвінагадоўлі. Хімічны склад корму; бялкі, тлушчы вугляводы, мінэральныя солі, вітаміны, вада і іх значэньне для арганізму жывёлы. Кармы жывельнага пахаджэньня і іх характарыстыка.

Лекцыя 6-я. Кармы расьліннага пахаджэньня: грубыя кармы, канцэнтраваныя кармы і забясьпечэньня імі сьвінагаспадарак, сакавітныя кармы і сілос. Характарыстыка кармоў для сьвіней. Бульба ва умовах БССР і яе значэньне для сьвінагадоўлі.

Лекцыя 7-я. Percатравімасьць, усваемасьць, бялковы стасунак, ацэнка кармоў па спажыўнай каштоўнасьці, кармовыя адзінкі, кармовыя нормы і іх складаньне.

Лекцыя 8-я. Захаваньне і падрыхтоўка кармоў: размол, драбленьне, запарка, сухі, густы, і жыдкі кармы. Складаньне кармовых мешанак, што такое комбікорм.

Лекцыя 9-я. Кармленьне і паеньне халастых і пароcных матак да пераводу на апарос. Кармленьне кныроў, і рамонтнага маладняка па пярыяду году. Кармленьне кныроў ў час злучнай кампаніі.

Тэма 5-я.

### Адкорм сьвіней.

Лекцыя 10-я. Адкорм падсьвінкаў у маладым узросьце (беконны адкорм). Узрост для пастаноўкі на адкорм, стандартная жывая вага. Пароды і адкорм, нормы, кармы, прырост перыод адкорму. Якасьць прадуктаў і ад чаго яна залежыць. Азнаемленьне з бэконымі камбінатамі.

Лекцыя 11-я. Паўсальны і сальны адкорм. Выбракоўка сьвіней. Узрост жывая вага, перыяды адкорму, прырост, кармы, якасьць прадуктаў, нормы.

## Тэма 6-я.

### Догляд за паросымі сьвінямі і парасятамі.

Лекцыя 12-я. Перавод пароснай маткі на апарос: догляд і кармленьне маткі да апаросу. Падрыхтоўка сьвінара для прыемкі парасят. Апарос, прыемка парасят. Замацаваньне парасят за соскамі, правілы падсадкі пад другую матку, абрэзка зубоў, мечаньне (вышчыпы, татуіроўка і г. д.) Вучот і запісы ў кнігу прыплоду. Падсьцілка зімою, вэнтыляцыя, падлога ў сьвінарніку.

Лекцыя 13-я. Кармленьне і догляд за падсоснай маткай. Кармы і іх уплыў на якасьць малака. Хваробы страваваньня у парасят. Нормы кармленьня. Паеньня маткі. Мінеральная падкормка для маткі і парасят. Падкормка парасят зерном і кароўім малаком. Падкормка парсят да адёму. Адём параст, сартыроўка па полу. Кармленьне ад"емышаў да 4-х месячнага узросту. Кармы і нормы.

## Тэма 7-я.

### Пашы для сьвіней.

Лекцыя 14-я. Арганізацыя натуральных і штучных пашаў для сьвіней. Зялены канвэйер. Лепшыя культуры для пашы. Лягеры і іх арганізацыя. Вадапой і неабходныя прылады (самапалкі і г. д.) Дастаўка вады, Нарматывы плошчаў пашы для сьвіней, патрэбнасьць вады.

Лекцыя 15-я Арганізацыя пасьбы сьвіней па групах: халастыя маткі, паросныя, кныры, рамонтны маладняк, маткі з парасятамі, ад'ёмнышы. Ролья сьвінара, пастуха. Распарадак працы. Арганізацыя падкормкі канцэнтраванымі кармамі у летні час.

## Тэма 8-я.

### Зоагігіена і прафіляктыка у сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

Лекцыя 16-я. Сонечнае сьвятло, паветра, тэмпература, вільготнасьць, глеба, вада і іх уплыў на разьвіцьцё жывёлы. Папсаваньня кармы, шкодныя атрутныя расьліны. Зоагігіена, пашавага утрыманьня сьвіней і водазабясьпечэньне Корма прыгатаваньне.

Лекцыя 17-я Зоагігіена дагляду за усімі групамі сьвіней, моцыён і прагулкі зімой і летам. Дэзынфекцыя сьвінарнікаў, правілы разьмяшчэньня сьвіней у сьвінарінках, інды-

відуальнае і групавое утрыманьне сьвіней розных груп і яго навуковае зоагігіенічная і гаспадарчая ацэнка догляд за вымем скурай, капытамі сьвіней, спільваньне іклаў у кныроў, барацьба з паразытамі-вошамі, кляшчамі і г. д.

Лекцыя 18-я. Адзнакі заразьлівых хвароб у сьвіней, —чумы, рожы, сіпціцэмі, паратыфу ды інш. Прышчэпкі. Прафіляктычныя мерапрыемствы пры барацьбе з заразьлівымі хваробамі. Першая дапамога хворай жывёле (запоры, масьціт, параненьне і г. д.).

### Тэма 9-я.

### Сьвінарнікі іх абсталяваньне і мэханізацыя.

Лекцыя 19-я. Зоагігіенічныя запатрабаваньні к добраму сьвінарніку. Выбар месца, будматар'ялы , нарматывы плошчы для розных груп сьвіней. Кароткая гісторыя тыпаў сьвінарнікаў: падлога, вэнтыляцыя, асьвятленьне, каналізацыя унутранае абсталяваньне і г. д. Унівэрсальны сьвінарнік для поўнага звароту статку згодна апошніх дырэктыў Партыі і Ураду.

Лекцыя 20-я. Мэханізацыя унутры сядзібнага транспарту: падвесныя дарогі, паземныя і г. д. Мэханізацыя кухні, кармапрыгатаваньне і раздачы, адпаведны набор існуючых машын для мэханізацыі сьвінаводных гаспадарак.

### Тэма 10-я

### Арганізацыя працы ў сацыялістычнай сьвінагадоўлі.

Лекцыя 21-я. Пастановы Партыі і Ураду аб арганізацыі працы ў сьвінаводчых саўгасах і СКТФ на данным этапе іх разьвіцьця. Брыгада, як яе арганізаваць. Нормы выпрацоўкі, якасныя і колькасныя паказальнікі, гасразьлік і барацьба са стратамі; вучот (бухгальтэрыя, апэрацыйна-Зоатэхнічныя), сабекошт, з якіх элементаў ён складаецца. Рацыяналізатарства, вынаходніцтва брызы у сьвінагаспадарках, кадры і іх падрыхтоўка Соцспаборніцтва і ударніцтва, выкананьне 6 умоў т. Сталіна.

Склаў НДІ сьвінагадоўлі **М. Злушко.**

2/V-32 г.

ЗАЦЬВЕРДЖАНА
Прэзыдыумам ЦК саюзу ад 1-IV-32 г
Прылажэньне да пратаколу № 50

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## Аб вытворчай сэкцыі сьвінаводчых саўгасаў ў саюзе РЖС

### Задачы сэкцыі.

1. Задачай сэкцыі сьвінарэй зьяўляецца разьвіцьцё вытворчай ініцыятывы мас (выкананьне прамфінплянацў і сустрэчныя пляны), прыцягненьне рабочых да вырашэньня вытворчых пытаньняў сьвінагадоўлі (палепшаньне дагляду за маладняком, сьвінямі, правільнае кармленьне, падвышэньне прыросту і г. д.), правільная арганізацыя працы і зарплаты. Рашучая барацьба за паляпшэньне сацыяльна-бытавэых і культурных умоў рабочых сьвінаводсаўгасаў.

Выходзячы з гэтага сэкцыя сьвінарэй:

а) Накіроўвае вытворчую ініцыятыву рабочых на зьнішчэньне вытворчых непаладак, на поўнае выкананьне і перавыкананьне вытвочых заданьняў, дапамагае хутчэйшаму выяўленьню і ажыцяўленьню рацыяналізатарскіх мерапрыёмстваў і вэтзоотэхнічных удасканаленьняў, змагаецца за мэханізацыю работ, за шырокае распаўсюджваньне лепшых вузораў вытворчых паказчыкаў, аўладаньне вэтзоаведамі, разгортваньня соцспаборніцтва і ударніцтва, уняўрэньню гасразьліка, зьмена—сустрэчнага плянаваньня, абапіраючыся ва ўсёй сваёй рабоце на вытворчыя нарады.

б) Прыцягвае шырокія масы рабочых і вэттэхнічнага пэрсааналу да правільнай арганізацыі працы, да барацьбы з абязьлічкай замацаваньня кадраў, правільнае разьмяркаваньне і выкарыстаньне рабочай сілы. Арганізуе рашучую барацьбу з ураўнілаўкай у зарплаце, актыўна ўдзельнічае ў пабудове сыстэмы зарплаты, выходзячы з прынцыпу правядзеньня зьдзельнай і прэміяльнай аплаты працы і лепшай аплаты рабочых вядучых прафэсый (сьвінарэй) і кваліфікаванай працы і дапамагае правільнай арганізацыі тэхнічнага нармаваньня і вучоту выпрацоўкі.

2. Сэкцыя арганізуе і праводзіць праз сацыяльна-бытавы сэктар рабочага забесьпячэньня, рабочых камітэтаў лепшую пастаноўку грамадзкага харчаваньня, палепшаньня работы ЗРК, своечасовае атрыманьне і разьмяркаваньне тавараў, палепшаньне работы рабкоопа, разьвіцьцё самадзейнасьці яе і рабочых мас у арганізацыі агародаў, адкормачных пунктаў, малочных фэрм:

Мабілізуе рабочых на барацьбу за выкананьне плянаў будаўніцтва і самадзейнасьці рабочых у матар'яльным удзеле ў жылбудаўніцтве, палепшаньня жыльлёвых умоў у інтэрнаце, бараках, казармах, гігіенычнае становішча рабочых кватэр, палепшаньне камунальных паслуг, забесьпячэньне рабочых сямей сацыяльна-бытавых культурнымі ўстановамі (ясьлі, дзіцячыя сады, дзіцячыя пляцоўкі, лазьні, пральні, пашывачныя і паправачныя майстэрні, бальніцы, лекавыя пункты і г. д: усямерна дапамагаючы палепшаньню дзейнасьці існуючых сацыяльна-бытавых і культурных устаноў.

3. Сэкцыя дапамагае сэктарам ЦК саюзу, Рэспубліканскім, краёвым, обласным камітэтам ў здавальненьні культурных запатрабаваньняў і падняцьці палітычнага ўзроўню рабочых шляхам арганізацыі і ўцягненьня ў сетку культурных устаноў саюзаў (клюбы, чырвоныя куткі, лікпункты, гурткі, арганізацыя дня адпачынку і г. д. ), палепшаньня культабслугоўваньня рабочых у інтэрнатах, казармах, кватэрах. Удзельнічае ў правядзеньні органамі Наркомасьветы ўсеагульнага навучаньня і палепшаньня ўмоў навучаючыхся дзяцей рабочых.

Структура і арганізвцыя сэкцыі сьвінарэй:

1. Вышэйшым органам сэкцыі зьўляецца ўсесаюзная вытворчая канфэрэнцыя, а ў рэспубліках, краях, абласьцях рэспубліканскія, краёвыя, абласныя вытворчыя канфэрэнцыі. Пералік рэспубліканскіх, краёвых, обласных камітэтаў саюзу, дзе павінны быць створаны вытворчыя сэкцыі устанаўліваецца ЦК саюзу. У саўгасах, пры рабачкомах, вытворчыя сэкцыі не ствараюцца, а ўсе пытаньні работы сэкцыі вырашаюцца непасрэдна агульным сходам членаў саюзу ці адпаведным саюзным органам саўгасу (рабачком, цэхком, прафгрупарганізатар).

2. На вытворчых усесаюзных, рэспубліканскіх, краёвых-абласных канфэрэнцыях абіраеццца бюро вытворчай сэкцыі з наступным зацьверджаньнем складу бюро Прэзыдыума саюзнага органа, пры якім яно арганізуецца (ЦК, рэсп., краёвымі і абласнымі камітэтамі).

Бюро сэкцый сьвінарэй абіраецца на той жа тэрмін, што і адпаведны саюзны орган.

3. Датэрміновыя перавыбары і давыбары бюро сэкцый могуць быць утвораны:

а) Пры пераходзе большасьці членаў бюро ў другую сетку вытворчасьці.

б) Па рашэньні прэзыдыуму ці пленума ЦК саюзу, рэс-публіканскага, краёвага, абласнога камітэту саюзу.

в) Па патрабаваньні двух трэціх частак членаў саюзу, аб'яднаемых сэкцыяй.

4. Бюро сэкцыі.

а) Склікае вытворчыя канфэрэнцыі для вырашэньня сэкцыйных гаспадарчых пытаньняў.

б) Кіруе ўсёй дзейнасьцю сэкцыі ў пэрыяд паміж канфэрэнцыямі.

в) Прапрацоўвае і праводзіць неабходныя мерапрыемствы па пытаньню палепшаньня работ данай галіны вытворчасьці, сустрэчны прамфінплян, арганізацыя працы, барацьба з абязьлічкай мэханізмаў, унядрэньне гасразьліку, рацыяналізацыя вытворчасьці і г. д.

г) Праводзіць мерапрыемствы накіраваныя да ўвядзеньня правільнай сыстэмы зарплаты, ліквідацыі ўраўнілаўкі і абязьлічкі ў зарплаце і правільнага тэхнічнага нармаваньня.

д) Сыстэматычна вядзе работу праз адпаведныя сэктары рэспубліканскіх, краёвых, абласных камітэтаў па палепшаньні культурнага і сацыяльна-бытавога абслугоўваньня членаў саюзу.

е) Ажыцьцяўляе кожнадзённую сувязь з гасорганамі данай галіны вытворчасьці навучальнымі установамі, навукова дасьледчымі і інстытутамі, савецкімі і іншымі арганізацыямі.

ж) Склікае для прапрацоўкі пытаньняў, уваходзячых у кола дзейнасьці сэкцыі, нараду з рабочых ударнікаў вядучых прафэсый, гаспадарнікаў і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу.

з) Устанаўлівае парадак скліканьня і норму прадстаўніцтва на сэкцыйныя вытворчыя канфэрэнцыі з абавязковым зацьверджаньнем дадзенага рашэньня адпаведным саюзным органам.

5. За сваю дзейнасьць Бюро Сэкцыі рабочых сьвінарэй нясе адказнасьць перад адпаведнымі саюзным органам сэкцыі і саюзу.

## Парадак работы сэкцыі сьвінарэй і ўзаемаадносіны з саюзным органам.

1. Вытворчая сэкцыя працуе непасрэдна па кіраўніцтвам таго саюзнага органа, пры якім яна ствараецца.

Па пытаньнях, выцякаючых з прынятых прэзыдыумам рашэньняў у парадку выкананьня, Бюро Сэкцыі сьвінарэй

непасрэдна зносіцца з ніжэйстаячымі сэкцыйнымі органам рэспубліканскімі, краёвымі, абласнымі камітэтамі, а апошнія з рабочымі камітэтамі, дае ім неабходныя ўказаньні ў кожнадзённай рабоце, ажыцьцяўляючы апэрацыйнае кіраўніцтва па канкрэтных пытаньнях дзейнасьці сэкцыі і кіруе ўсёй дзейнасьцю рабачкомаў у саўгасах.

2. Пры стварэньні сьвінаводчай сэкцыі паралельныя вытворчыя групы ў сэктары вытворчасьці і плянаваньня не ствараюцца.

3. Пытаньні вытворчай работы ў гаспадарчых сьвінаводчых сыстэмах, сэкцыя прапрацоўвае і непасрэдна ставіць на вырашэньне адпаведнага камітэту саюзу, працуючы па гэтых пытаньнях пад агульным кіраўніцтвам сэктару Вытворчасьці і Плянаваньня. Па ўсіх астатніх пытаньнях сэкцыя ўсе свае мерапрыемствы ўзгадняе з адпаведнымі сэктарамі і ставіць іх на вырашэньне Прэзыдыуму.

4. Пастанова Бюро Сэкцыі сьвінарэй па пытаньнях, уваходзячых у кола дзейнасьці сэктараў саюзнага апарату, пасьля зацьверджаньня гэтай пастановы Прэзыдыумам адпаведнага камітэту саюзу праводзяцца непасрэдна сэктарамі.

5). Сэкцыя сьвінаводства па пытаньнях, якія датыкаюцца дзейнасьці сэктараў саюзнага апарату уваходзіць у Прэзыдыум адпаведнага камітэту саюзу ці непасрэдна ў данны сэктар і ў выпадку рознагалосься паміж бюро сэкцыі і сэктарам па сутнасьці пытаньне ўносіцца на разгляд Прэзыдыуму саюзу.

6. Сэктар ЦК, рэспубліканскіх, краевых, абласных камітэтаў па усіх пытаньнях работы сэкцыі (вытворчым, матарыяльно-бытавым і культурным) улічваюць іх вопыт і ўзгадняюць сваю работу з бюро сэкцыі сьвінаводства.

7. Усе пытаньні, уваходзячы ў кола дзейнасьці сэкцыі, як правіла, абгаварваюцца Прэзыдыумам саюзных органаў, пасьля папярэдняй прапрацоўкі гэтых пытаньняў ў Бюро Сэкцыі.

8. Рашэньні канфэрэнцыі і бюро сэкцыі ўступаюць у моц пасьля зацьверджаньня іх адпаведным органам ЦК, Рэспубліканскага, краёвага, абласнога камітэту.

9) Бюро вытворчых сэкцый прыцягваюць да сваёй дзейнасьці шырокія масы добраахвотніцкага актыву з рабочых, спэцыялістаў, студэнтаў, работнікаў гаспадарчых і інш. арганізацый. Вылучае групу добраахвотнікаў для сувязі з гасарганізацыямі, групу добраахвотнікаў для работы ў адпаведных функцыянальных сэктарах камітэтаў саюзу для дапамогі ў ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў, зьвязаных з работай

Бюро сэкцыі сьвінаводства. Арганізуе апорныя карэспандэнскія пункты добраахвотнікаў у саўгасах у мэтах сыстэматычнага кантролю і сыгналізацыі за ходам выкананьня рашэньняў сэкцыі на мясцох.

10. Як правіла, бюро сэкцыі карыстаецца існуючым платным апаратам камітэту саюзу. Платны апарат і штат бюро сэкцый устанаўліваецца прэзыдыумам ЦК саюзу.

11. У сваёй працы быро сэкцыі кіруецца гэтым палажэньнем, рашэньнямі саюзных і сэкцыйных канфэрэнцый і дырэктывамі адпаведных камітэтаў саюзу.

---

ЗАЦЬВЕРДЖАНА
Прэзыдыумам ЦК Саюзу РЖС
прат. № 58 ад 21|V-32 г.
узгоднена з Аргсэктарам Ус,
ЦСПС 7|VI-32 г.—Завалішіна.

# Палажэньне аб прафгрупе і прафгрупоргу.

## 1. Агульнае палажэньне.

1. Першаістай ячэйкай саюзу ў саўгасе ці ўстанове зьяўляецца прафгрупа, аб'яднаючая членаў саюзу, працуючых у вытворчай групе (на вытворчасьці, у брыгадзе, скотнага двара, сьвінарніка, птушніка), ва ўстанове-работаючых у адным сэкгары, аддзеле і г. д.

2. Прафгрупа, як першаістая ячэйка прафсаюзу РЖС аргаізуецца для выкананьня наступных задач:

а) Практычнага правядзеньня ў жыцьцё ў сваёй вытворчай групе (брыгадзе, скотным драры, сьвінарніку і г. д.) асноўных рашэньняў прафэсыйных і ўрадавых органаў.

б) Уцягненьня ў члены прафсаюзу ўсіх рабочых, спэцыялістаў і служачых, працуючых у групе і выхаваньня з іх сьвядомых і актыўных будаўнікоў бескля́савага сацыялістычнага грамадзства.

в) Актыўнай работы па палепшэньні і абслугоўваньні матэрыяльных і культурна-бытавых умоў рабочых і служачых.

г) Максымальнае прыцягненьне рабочых, спэцыялістаў і служачых да пытаньняў арганізацыі зарплаты і працы, мабілізуючы увагу на пасьпяховае ажыцьцяўленьне вытворчых задач, на выкананьне і перавыкананьне колькасных і якасных паказчыкаў пляна у данай вытворчай брыгадзе

саўгасу, на барацьбу за якасьць работы, за выхад, своечасовую здачу таварнай прадукцыі дзяржаве, на барацьбу з падзяжом пагалоўя і з усімі іншымі вытворчымі недахопамі, за узмацненьне працоўнай пралетарскай дысцыпліны, поўнай ліквідацыі прагулаў і спазьненьняў на работу і лепшую арганізацыю вытворчасьці.

д) Ахопа ўсіх рабочых, спэцыялістаў і служачых сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам.

е) Арганізацыя шырокага ўдзелу рабочых у правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

## II. Арганізацыйная пабудова.

1. Прафгрупа арганізуецца ў кожнай вытворчай брыгадзе рабочых, занятых па догляду за жывёлай.

УВАГА: У полеводстве пры вялікай колькасьці работаючых у брыгадзе і майстэрнях прафгрупа аб'ядная работаючых, зьвязаных аднолькавым характарам выконваемай работы: брыгада сьлесараў, плотнікаў, брыгада трактарыстаў, касарэй і г. д.

2. Сетка прафгруп на фэрмах і ў цэхах устанаўліваецца рабочкомамі фэрмы і цэхавымі камітэтамі і зацьверджаецца агульна-саўгаскім рабочым камітэтам.

3. Прафгрупа працуе пад агульным кіраўніцтвам рабачкома фэрмы ці цэхавага камітэту, а там, дзе няма гэткіх— пад кіраўніцтвам агульна саўгаскага рабочага камітэту.

4. Вышэйшым саюзным органам у групе зьяўляецца агульны сход членаў саюзу групы. Для кіраўніцтва прафработай у групе на агульным сходзе членаў саюзу групы абіраецца групавы прафарганізатар (прафгрупорга). Правам рашаючага голасу на выбарах прафгрупорга карыстаюцца толькі члены саюзу.

5. Прафгрупоргам можа быць абраны толькі член саюзу, незаймаючы адміністрацына-гаспадарчы пост.

Агульны сход групы склікаецца на радзей аднаго разу ў дэкаду.

6. Прафгрупорг абіраецца на 6-ці месячны тэрмін. Датэрміновае пераабраньне прафгрупорга вытвараецца па рашэньні агульнага сходу прафгрупы, па прапанове агульнасаўгаскага рабачкому, рабачкому фэрмы, а таксама пры пераходзе групорга на другую работу.

УВАГА: Сярод членаў саюзу сэзонных рабочых (на пасеўнай, сенауборачнай і сярод будаўнікоў) прафгрупорг абіраецца на час работы брыгады, але ня больш чым на тэрмін 6-ці месяцаў.

7. У кожнай групе арганзуецца групавая вытворчая нарада начале з старшынёй, які абіраецца на сходзе групы.

На агульным сходзе групы таксама абіраецца зборшчык членскіх узносаў.

8. Апрача гэтага, прафгрупорг прыцягвае да сваёй работы арганізатараў добраахвотнікаў на асобных відах работы (па культрабоце, па сац. быт. пытаньнях, вытворчых і г. д.) Колькасьць такіх сталых арганізатараў вызначаецца ў залежнасьці ад колькасьці рабочых у групе.

9. Арганізатары асобных відаў работы прафгрупы, як выбарныя, так і прыцягненыя ў парадку добраахвотніцтва працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам прафгрупорга і адпаведнага арганізатара рабачкому фэрмы, цэхкома ці агульнасаўгаскага рабачкома.

## III. Абавязкі прафгрупорга.

1. Прафгрупорг, як аганізатар і кіраўнік групы зьяўляецца праводнікам пастаноў рабачкому фэрмы, цэхкома і агульнасаўгаскага рабачкому і вышэйстаячых саюзных органаў і працуе пад непасрэдным кіраўніцтвам рабачкому фэрмы, цэхавага камітэту ці агульнасаўгаскага рабачкому і па ўказаньням прафгрупы.

2. У абавязкі прафгрупорга уваходзіць практычнае выкананьне ўсіх задач, якія стаяць перад прафгрупай.

### У галіне арганізацыйнай, прафгрупорг абавязан:

1. Весьці вучот членаў саюзу і дабра ведаць колькасны і якасны склад усіх рабочых сваёй групы.

2. Рэгулярна склікаць агульныя сходы груп і уважліва падрыхтоўваць пытаньні, уносімыя на абгаварэньне сходаў і не радзей аднаго разу ў тры месяцы рабіць справаздачу аб сваёй рабоце на агульным сходзе прафгрупы.

3. Уцягваць новых рабочых у члены прафсаюзу, выяўляць іх сацыяльнае становішча і ўносіць пытаньні прыёму іх у члены саюзу на абгаварэньне агульнага сходу прафгрупы і зацьверджаньне рабачкому фэрмы ці цэхавага камітэту.

4. Своечасова растулмачваць рабочым сэнс і значэньне асобных рашэньняў прафсаюзаў, партыі і ўраду, мабілізуючы рабочых групы на выкананьне гэтых рашэньняў, а таксама пастаноў агульна-саўгаскага рабачкому, рабачкому фэрмы, цэхкома.

5. Прыцягваць усіх рабочых груп да ўдзелу ў сходах мітынгах і да практычнай працы, зьвязанай з правядзеньнем масавых палітычных кампаній.

6. Пільна прыслухоўвацца да настрояў рабочых, уважліва высьвятляць прычыны іх нездавальненьня, своечасова высоўваць перад рабачкомам фэрмы, цэхкому і агульнасаўгаскім рабачкомам і адміністрацыяй пытаньні, хвалюючыя рабочых і дабівацца іх вырашэньня.

7. Кіраваць работай зборшчыка членскіх узносаў, сачыць за сваечасовым і поўным ўнясеньнем сабраных узносаў у рабач ком фэрмы, ці ў агульнасаўгаскі рабачком і прымаць неабодныя меры грамадзкага ўзьдзейнічаньня да неплацельшчыкаў членскіх узносаў.

8. Прафгрупорг будуе сваю работу па складзенаму ім і прынятым агульным сходам групы плянам, працуючы ў шчыльнай сувязі з партгрупоргам і брыгадзірам.

**У галіне заработнай платы і вытворчасьці прафгрупорг:**

1. Склікае рэгулярна групавыя нарады і сумесна з старшыней вытварчай нарады намячае і падрыхтоўвае пытаньні да нарады. Ставіць справаздачныя даклады брыгадзіра на вытварчай нарадзе па асобных пытаньнях (барацьба за якасьць работы, правільная арганізацыя працы, прапрацоўка норм выпрацоўкі і расцэнкі, а таксама выкананьне гэтакіх аб здачы таварнай прадукцыі дзяржаве і г. д.). Дапамагае ўцягненьню рабочых у вытворчыя нарады фэрмы, цэха. Арганізуе збор рабочых прапаноў і кантроль над сваечасовым правядзеньнем іх у жыцьцё.

2. Арганізуе работу ў групе па давядзеньні вытворчага заданьня брыгады да кожнага рабочага;

3. Ажыцьцяўляе сталы вучот і кантроль за ходам выкананьня вытворчага заданьня кожным рабочым і вытворчай брыгадай ў цэлым за выкананьнем плянаў здачы таварнай прадукцыі.

4. Арганізуе сацыялістычнае спаборніцтва як унутры брыгады і групы, так і з іншымі брыгадамі. Уцягвае рабочых, спэцыялістаў ва ўдарныя брыгады. Разгортвае вышэйшыя формы соцспаборніцтва: гасразьліковыя брыгады, зьменнасустрэчнае плянаваньне, арганізуе работу па выкананьні брыгадай сваіх абавязкоў па гасразьліковаму дагавору, забясьпечвае сыстэматычную праверку выкананьня двухбаковага абавязацельства па гасразьліку. Садзейнічае лепшай пастаноўцы вучоту сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

5. Арганізуе рабочых усёй групы на лепшую арганізацыю працы, ліквідуючы абязлічку па дагляду за жывёлай і інвэнтаром, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, сыравіны, матар'ялаў і эканомнага выдаткаваньня кармоў, правільнай растаноўкі рабочай сілы, ахопу тэхнічным нармаваньнем, увядзеньню зьдельнай аплаты працы.

6. Усямерна садзейнічае групе ауладаць тэхнікай вытворчасьці. Уцягвае рабочых у гурткі, гутаркі, школы і інш. віды тэхвучобы і ў першую чаргу аказвае дапамогу кожнаму рабочаму ў аўладаньні ім тэхнікай сваёй работы на скотным двары сьвінарніку, птушніку і г. д.

7. Сачыць за правідловым вырашэньнем канфлікта паміж працуючымі і брыгадзірам і пры немагчымасьці вырашэньня іх на месцы перадае ў РКК праз рабачком фэрмы цэхавы камітэт.

8. Своечасова ставіць перад брыгадзірам усе пытаньні аб зьнішчэньні маючыхся недахопаў ў вытварчасьці і ва ўмовах працы, не падмяняючы брыгадзіра у непасрэдных яго дзеяньнях і распараджэньнях, усямерна ўзмацняючы адзінаначальле.

**Па арганізацыі быту і здавальненьні матар'яльных запатрабаваньняў працуючых.**

1. Прафгрупорг з прыцягненьнем дабраахвотніцкага актыву і групы: сочыць за здавальненьнем жыльлямі ахопам грамадзкім харчаваньнем працуючых ў яго групе-брыгадзе, за якасьцю харчаваньня і за забясьпячэньнем прадуктамі і прамтаварамі. Даводзіць да ведама рабачкому аб недахопах і дабіваецца ліквідацыі іх.

б) Забясьпечвае ахоп дзяцей работаючых яго групы маючыміся дзіцячымі установамі саўгасу (дзіцячыя сады, ясьлі) і школамі, дапамагае рабачкому фэрмы, саўгасу ў паляпшэньні работы гэтых установ і прыцягвае ўсіх работаючых сваёй групы да гэтай работы.

в) Выяўляе найбольш патрабуючых у дамах адпачынку у санаторна-курортным і бальнічным лячэньні і ставіць перад рабачкомам аб іх дазваленьні.

г) Сачыць за санітарна-гігіенічнымі ўмовамі працы, інтэрнатаў (уборка, работа, вентыляцыя, тэхнічныя агарод жаньні, наяўнасьць гатаванай вады, аптэчка і г. д.) і дабівацца перад адміністрацыяй аб іх паляпшаньні.

д) Уцягвае рабочых ў работу каапэрацыі, касы ўзаемадапамогі выяўляе ўсе матар'яльныя і бытавыя запатрабаваньні

членаў сваёй групы, прымае праз рабачком фэрмы, цэхком і агульнасаўгаскі рабачком меры да іх задавальненьня. Уцягвае рабочых сваёй групы ў работу па арганізацыі рабочых агародаў, адкормачных пунктаў, разьвядзеньня кролікаў і г. д.

## Па культурна масавай рабоце прафгрупорг:

1. Кожнадзённай работай з групай і асобнымі рабочымі, правядзеньнем гутарак, чыткі газэт, вечараў пытаньняў і адказаў растлумачвае рабочым сацыялістычны характар нашых прадпрыемстваў, значэньне беражлівых адносін да жывёлы, інвэнтара і інструмантаў паняцьце аб тым, што рабочы працуе на сябе, а не на гаспадара.

2. Арганізуе правядзеньне з рабочымі, прышоўшымі з вёскі адзінаасобнікамі і калгасьнікамі аб значэньні прафсаюзу, задачах членаў саюзу, іх пераваг перад нячленамі саюзу, уцягвае іх у саюз і выхоўвае ў іх пралетарскую клясавую сьвядомасьць і сьвядомую пралетарскую дысцыпліну.

3. Арганізуе шэфства старымі рабочымі над уноў прышоўшымі ў саўгас, з мэтай перадачы вопыту старых кадраў рабочых новым рабочым.

4. Арганізуе ўдзел членаў саюзу ў цэхавым і агульнасаўгаскім друку, выпушчае групавую насьценгазэту.

Уцягвае рабочых у гурткі паліт. і прафработы і забяспечвае пагалоўную ліквідацыю няпісьменнасьці ў сваёй групе.

Арганізуе рабочых усёй групы па аўладаньні тэхнікай жывёлагадоўлі.

Арганізуе пагалоўнае абслугоўваньне сваёй групы чырвоным кутком, кнігамі, кіно, арганізуе адпачынак рабочых і іншымі культурна-асьветнымі мерапрыемствамі, падпіскай усіх рабочых на газэты, часопісы і г. д.

## Кіраўніцтва работай прафгрупоргаў.

Работай прафгрупорга кіруе рабачком фэрмы, цэхком, там дзе іх няма, агульнасаўгаскі рабочы камітэт.

Кіраўніцтва ажыцьцяўляецца:

1. Жывой сувязьзю рабачкома фэрмы і агульнасаўгаскага рабачкоаў. Кожнадзённым жывым інструктаваньнем і канкрэтнай дапамогай па асобных пытаньнях іх работы.

2. Сваечасовай інфармацыяй іх важнейшых рашэньняў